—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
20
ВЕРАСНЯ
1991 г.
№ 38 (3604)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ—16 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

Шаноўныя чытачы! З учарашняга дня мы з вамі жывём і працуем не ў БССР, а ў Рэспубліцы Беларусь.

Вярхоўны Савет рэспублікі таксама аднавіў гістарычную справядлівасць у дачыненні да нацыянальнай сімволікі. Бел-чырвона-беламу сцягу і гербу «Пагоня» нададзены статус дзяржаўных.

Жыве Беларусь!



ПІСЬМО ТЫДНЯ

# МЫ ПАВІННЫ ЗАГАВАРЫЦЬ!

Па прафесіі я філосаф, выкладчык філасофіі. Гэта значыць, што прафесійна мне належыць асэнсоўваць з'явы нашага грамадскага жыцця. Аднак ёсць з'явы, якія не паддаюцца ні прафесійнаму, ні чалавечаму асэнсаванню. Я маю на ўвазе тую бездань, якая аддзяляе нашы глыбокія тэарэтычныя спрэчкі аб нацыянальным менталітэце, сучасным становішчы і перспектывах развіцця беларускай мовы, будучыні нацыі ад надзённых праблем практычнай рэалізацыі Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы.

Я не буду гаварыць пра тое, як марудна адкрываюцца беларускамоўныя садкі і школы, не буду гаварыць аб практычна невырашальнай сёння задачы пераходу на дзяржаўную мову ВНУ і наогул усіх дзяржаўных устаноў— гэта, як мне здаецца, вядомы для ўсіх факт (хоць нават і супраць такога паступовага працэсу ўжо чутны воклічы: «Не перагнуць бы палку!»).

Я раскажу толькі аб сваіх няўдалых спробах загаварыць на беларускай мове.

**Справа ў тым, што сфера маіх навуковых інтарэсаў знаходзіцца даволі далёка ад праблем беларускага нацыянальнага менталітэту. Але калі ў канцы 80-ых гадоў З. Пазняк пачаў нарэшце ўслых гаварыць пра тое, што, магу гэта ўпэўнена сцвярджаць, доўгія гады не давала спакою сумленным беларускім людзям, гэта закранула і мяне. Праўда, за сваё спачуванне БНФ мне прыйшлося ў рэшце рэшт развітацца з працай выкладчыка ў адной з нашых ВНУ. Аднак справа не ў гэтым. Галоўнае: я пачала шукаць шлях да свайго «нацыянальнага адраджэння» і знайшла — «ЛіМ»!**

Вашу газету я выпісваю ўжо трэці год. Разам з вамі я сталела і разумнела, пераходзячы ад эмацыянальна-ўзнёслых заклікаў аб неабходнасці вывучэння беларускай мовы да глыбокіх артыкулаў, у якіх аналізуюцца праблемы генезісу і развіцця беларускага менталітэту. Колькі новага я дазналася: гістарычных фактаў і гіпотэз, імёнаў... Аднак, калі мае сябры і апаненты пыталіся ў мяне, чаму я, такая прыхільніца беларускай культуры, не размаўляю па-беларуску, я проста адказвала: «Не ўмею», і гэта была праўда. Тады...

Гэта няпраўда сёння. Сёння я многа ведаю, мой лексічны запас дазваляе мне размаўляць на роднай мове. Але я ніколі не думала, якой вялікай мужнасці вымагае гэты крок — загаварыць па-беларуску. Так-так, нават сёння, калі ўжо даўно прыняты закон аб дзяржаўнасці нашай мовы.

**Да таго, што мне будзе перашкаджаць спачатку псіхалагічны бар'ер, я была падрыхтавана: пачаць гаварыць па-беларуску ў рускамоўным асяроддзі! Але сутыкнулася я не з бар'ерам у сабе — гэта аказалася даволі проста, — а зусім з іншым бар'ерам. Гэта бар'ер нейкай злоснай агрэсіўнасці, нават нянавісці маіх рускамоўных суразмоўнікаў усюды: на лесвічнай пляцоўцы, у магазіне, на працоўным месцы. Вось некалькі прыкладаў: я не штучна мадэлюю сітуацыі, а апісваю свой уласны вопыт.**

...Выходжу за дзверы сваёй кватэры, вітаю суседку: «Добрай раніцы!» Чую ў адказ: «Доброе утро! Белоруска какая нашлась...» (праз зубы).

...Прашу ў магазіне паказаць мне ружовыя ніткі, мне даюць чырвоныя, і на маю заўвагу —адказ: «Так не каждому дано это понять. А если я с вами начну по-английски разговаривать?» (з пагардай, з перавагай, з выклікам).

...На працоўным месцы (навуковая ўстанова): «А как же гарантировать права человека русскому населению, если все учреждения переводятся на белорусский язык?» (з выклікам).

Яшчэ раз падкрэслю, што ўсё гэта адбываецца сёння, калі беларуская мова ўжо даўно з'яўляецца дзяржаўнай, а не ўчора, калі, мабыць, сама мова асацыіравалася з БНФ і, такім чынам, была ў свядомасці многіх людзей як бы незаконнай.

**Калі на ўласнай практыцы сустракаешся з падобнымі з'явамі, то і пачынаеш разумець, якая бездань аддзяляе прынццце закона ад яго рэалізацыі. Закон аб дзяржаўнасці нашай мовы — гэта даволі надзейная падтрымка энтузіястам, нейкі шанц для больш эфектыўнай беларусізацыі насельніцтва нашай рэспублікі. Але, як бачым, нават слабыя спробы яго рэалізацыі на індывідуальным узроўні выклікаюць супраціўленне ў розных сацыяльных пластах.**

Таму я і думаю: ці хопіць сілы ў свядомай беларускай інтэлігенцыі процістаяць гэтаму агрэсіўна-злоснаму настрою напаўкультурнага чалавека? Болей таго, не процістаяць, а мяняць гэты настрой.

Павінна хапіць! У нас няма іншага шляху. Нашы дзеці спрабуюць гаварыць па-беларуску дома, ідуць у беларускамоўныя школы, і я не хачу, каб маёй маленькай дачцэ было злосна працэджана ў адказ на яе вітанне: «Белоруска какая нашлась!».

Таму я звяртаюся да беларускай інтэлігенцыі, да ўсіх сумленных і свядомых людзей. Так, на адным энтузіязме мову не выратуеш — гэта быў асноўны і вядомы тэзіс. Але зараз, калі мы маем дзяржаўную падтрымку, слова за намі. Мы ведаем беларускую мову: усе — на фанетычным узроўні, амаль усе — на лексічным, мала хто, праўда, на сінтаксічным. Мы павінны нарэшце загаварыць на ёй, хоць гэты крок, нават сёння, патрабуе пэўнай мужнасці. Мы павінны загаварыць на ёй, каб выратаваць ад нацыянальнага нігілізму тых, каго можна яшчэ выратаваць, — нашых дзяцей!

**Т. БУЙКО.**

г. Мінск.



Надзейка.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# Мы гаворым Ленін, разумеем—партыя?

У дзень, калі пачалася нечарговая сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі, плошча Леніна набыла ўжо звыклы для менчукоў выгляд. Яна стракацела бел-чырвона-белымі сцягамі, выявамі Пагоні, лозунгамі і транспарантамі. Вось толькі людзей было на гэты раз ці не менш, чым плакатаў.

Аднак нязвыклае ажыўленне назіралася тым часам непадалёк — каля ўваходу ў Метрапалітэн (нагадайма — таксама імя У. І. Леніна). З плаката на сцяне можна было даведацца, што тут праводзіцца акцыя супраць рашэння гарсавета аб пераносе помніка Ільічу з плошчы, якую прапануецца назваць пляцам Незалежнасці. У абарону помніка правадыру пралетарскай рэвалюцыі ўжо сабрана звыш 4 тысяч подпісаў. Ініцыятарамі «падпісной кампаніі», як паведамляў друк, выступілі слухачы Інстытута паліталогіі і «жыхары Мінска». Але сярод слухачоў былой ВПШ тут лёгка можна было заўважыць і партработнікаў — напрыклад, сакратара райкома, ці інструктара ЦК. Яны актыўна агітавалі менчукоў падпісваць зварот аб захаванні «лепшага твора архітэктуры сярод аналагаў у СССР». Але многія з менчукоў тут жа, побач, падпісвалі... зусім іншы зварот — за перанос помніка. Натуральна, паміж групоўкамі «ленінцаў» і «антыленінцаў» ішла гарачая дыскусія, у ходзе якой гучалі і непарламенцкія выразы.

На фоне праблем, якімі мы зараз жывём, перад якімі стаіць наша рэспубліка, яе Вярхоўны Савет, гэты эпізод выглядае малазначным. Можа, і не варта было б надаваць яму шмат увагі. Але вось пра што падумалася. Зараз камуністы прыкладаюць актыўныя намаганні, каб аднавіць сваю партарганізацыю (будзе яна называцца камуністычнай ці не — сёння ўжо неістотна). У прынцыпе, імкненне гэтае нармальнае. Зразумела, калі яно будзе ажыццяўляцца выключна ў рамках закона. Але што можа прапанаваць партыя працоўным, выказнікам інтарэсаў якіх яна сябе заўсёды выстаўляла, на сённяшні дзень? Рэальную праграму выйсця з крызісу ў эканоміцы? Новыя, арыгінальныя ідэі ў пабудове дэмакратычнага грамадства? Ці замшэлыя догмы, заснаваныя на «сацыялістычным выбары», на вернасці ленінскім ідэалам, якімі кармілі народ на працягу сямідзесяці год?

Атрымліваецца, што ў камуністаў няма сёння большага клопату, як клопат аб захаванні «твораў архітэктуры». Толькі ж на ахове помнікаў правадырам кастрычніцкай рэвалюцыі сур'ёзны палітычны капітал не заробіш.

Актуальна гучаць сёння старыя словы: «Яны нічога не зразумелі, нічому не навучыліся».

**Віталь ТАРАС.**

# Імя Бога і Беларусі

12 верасня ў Міністэрстве юстыцыі БССР зарэгістравана пад нумарам 149 яшчэ адна рэспубліканская грамадская арганізацыя — Беларуская Каталіцкая Грамада, якая мае сваёй мэтай адраджэнне нацыянальнай дзяржаўнасці на хрысціянскіх ідэалах, беларусізацыю рэлігійнага жыцця народа, пашырэнне асветніцтва сярод вернікаў Беларусі. Першая сходка будучых сяброў Грамады — мастакоў, музыкантаў, навукоўцаў, рабочых, служачых рымска-каталіцкага веравызнання — адбылася 16 чэрвеня мінулага года ў Менску. А неўзабаве наладзіліся і кантакты з вернікамі-католікамі, святарамі розных беларускіх гарадоў і мясцовасцей.

16 жніўня ля касцёла ў Менску (дзе зараз зала арганнай музыкі Белдзяржфілармоніі) адбылася ўрачыстая служба з нагоды свята патрона касцёла Святоха Роха. Упершыню праз дзесяцігоддзі ізноў на гэтым месцы прагучала малітва на беларускай мове. Набажэнства вёў мітрапаліт-арцыбіскуп Менскі і Магілёўскі апостальскі адміністратар Пінскі Казімір Свёнтак. Прыгожа, спеўна гучала наша родная мова і з вуснаў іншых ксяндзоў (сярод якіх быў святар з Вішнева М. Чарняўскі, пачынальнік беларусізацыі касцёла ў пасляваенны перыяд), і ў выкананні хору. Паводле ўспамінаў менчукоў-старажылаў, у гэтым касцёле ў 1910-х гг. на хвалі нацыянальнага абуджэння святаром Гадлеўскім было распачата беларускамоўнае набажэнства. Прыгадаем, што тады найбольш агрэсіўна настроеныя «касцельныя паляні» падбухторвалі зачыняць браму касцёла перад ксяндзом. Маўляў, нізавошта не дазволім на «мужыцкай мове» весці службу, ёсць на гэта мова «сапраўдная», польская.

За дзесяцігоддзі панавання ў дзяржаўнай палітыцы вульгарнага атэізму каталіцкай культуры ў Беларусі былі нанесены цяжкія страты, з'явілася шмат канфармізму, ізаляванасці ад жыцця. Напрыклад, у адзіным Кальварыйскім касцёле ў Менску святары да апошняга часу звярталіся да вернікаў па-расейску, што ўвогуле не ўласціва традыцыі каталіцызму на Беларусі, дзе рускае насельніцтва звыкла праваслаўнае. Быццам беларусы-католікі не ведаюць сваёй роднай мовы, а прыхаджанам, з дзяцінства выхаваным на польскамоўнай малітве, расійская мова нібыта больш зразумелая за беларускую.

На першы ўстаноўчы сойм Беларускай каталіцкай Грамады ў Менску 13 красавіка 1991 года сабраліся дэлегаты з розных рэгіёнаў Беларусі, прысутнічалі святары, якія шчыра падтрымалі неабходнасць беларусізацыі касцельнага жыцця. Грамада тады арганізацыйна аформілася, зацвердзіла сваю праграму і статут, абрала кіруючыя структуры на чале са старшынёй Феліксам Янушкевічам, вядомым беларускім мастаком. Пачала выходзіць газета «Хрысціянская думка», з'явіліся беларускамоўныя малітоўнікі. У касцёле на Залатой горцы ў Менску з вясны гэтага года пачалі штодзённа адбывацца беларускамоўныя набажэнствы.

У Беларускай каталіцкай Грамады шмат спраў. Перш за ўсё — правядзенне да канца года другога сойма ў Гародні — асяродку, дзе жыве шмат католікаў-беларусаў.

Зацверджана эмблема Грамады з выявай Маці Боскай Вострабрамскай, анёламі, сімвалічнымі атрыбутамі. Назва арганізацыі падаецца ў эмблеме на лацінцы, бо БКГ, апроч усяго, бярэ на сябе клопат працягваць поруч з кірылічным друкам жывую яшчэ традыцыю лацінадрука ў сваіх свецкіх і рэлігійных выданнях. Думаецца, што ў сучасным культурным працэсе спрадвечна шматканфесійнай Беларусі Грамада знойдзе і сваё месца, і сваіх прыхільнікаў. Адпаведна ўздымаецца і аўтарытэт каталіцкага касцёла, бо дагэтуль многія свядомыя беларусы ўспрымаюць яго не як дом Божы, а філіял польскага консулата.

**В. БОГУШ.**

# ГОЛАС ПРАЦОЎНАГА СЯЛЯНСТВА

Цэнтральная Рада Беларускай сялянскай партыі звярнулася да вясковых жыхароў рэспублікі з адозвай, у якой адзначаецца, што ў выніку новай палітычнай сітуацыі, якая склалася ў краіне, стварыліся рэальныя магчымасці для паспяховага правядзення палітычных і эканамічных рэформ. Разам з тым, падкрэсліваецца ў адозве, камуністычная партыя Беларусі, якая фармальна быццам бы і страціла ўладу, фактычна па-ранейшаму трымае ў сваіх руках кіраўніцтва дзяржаўнымі і гаспадарчымі органамі ў абласцях і раёнах. Зыходзячы з гэтага, сялянская партыя дэкларуе шэраг палітычных патрабаванняў, сярод якіх — адстаўка ўрада і стварэнне кабінета міністраў народнага даверу на пераходны перыяд, прыняцця новага закона аб выбарах і правядзенне датэрміновых выбараў на шматпартыйнай аснове, скарачэнне ў 10—15 разоў упраўленчага апарату.

Усведамляючы сваю адказнасць за лёс шматпакутнага сялянства, Беларуская сялянская партыя выступае з ініцыятывай правядзення «круглага стала», на якім можна было б абмеркаваць самыя надзённыя пытанні, звязаныя з адраджэннем вёскі, прыватызацыяй зямлі, развіццём аднаасобніцкіх гаспадарак і г. д. БСП запрашае прыняць удзел у «круглым стале» Саюз аграрнікаў Беларусі, народных дэпутатаў БССР, якія прадстаўляюць у Вярхоўным Савеце сельскае насельніцтва, прадстаўнікоў сельскагаспадарчай навукі, прэсы і творчай інтэлігенцыі.

«Хай рэспубліка пачуе голас працоўнага сялянства»— гэтымі словамі заканчваецца адозва.

**М. З.**

НА ПАВАРОЦЕ

# ВЯРХОЎНЫ САВЕТ, ЯКІ НЕ ХОЧА ПРАЦАВАЦЬ У МЕНСКУ

**Зняважыць наш Вярхоўны Савет немагчыма. У тым сэнсе, што трэба мець ну вельмі ўжо раскілзанае пяро, каб спаборнічаць з самімі дэпутатамі. «Цырк на дроце», «базар» — падобныя перлы самахарактарыстыкі ляцяць у эфір, навечна занатоўваюцца стэнаграмай. Што ж, ім, дэпутатам, відней...**

**Скліканая не без прэтэнзіі «на сход, на вялікі сход па Бацькаўшчыну», нечарговая сесія ВС хуценька адкінула ўсялякія сантыменты і прыняла да разгляду пытанне, якое не пазначана ў парадку дня, але нязменна ў ім прысутнічае, — старое, як свет, пытанне аб уладзе. Першыя два дні працы сесіі, 17 і 18 верасня, з нагляднасцю анатамічнага тэатра прадэманстравалі гальванізаваныя рухі аджыўшай сістэмы. Той самай сістэмы, дзе палітыка і мараль разведзены па супрацьлеглых полюсах, дзе пануе цынізм і крывадушнасць, дзе цана, якую даводзіцца плаціць за дасягненне таго ці іншага выніку, робіць неэфектыўнай саму «вытворчасць». Стратная эканоміка спустошыла прылаўкі нашых магазінаў, стратная палітыка стрымлівае развіццё грамадства, калі не адкідае яго назад (улічваючы, што дзень сёння ідзе за месяц, а то і за год).**

**Выбранне Станіслава Шушкевіча Старшынёй Вярхоўнага Савета ў красавіку 1990-га было б сапраўды рэвалюцыйным зрухам. У верасні 1991-га на «рубяжы Шушкевіча» была спынена (ці спынілася) спроба рэваншу кансерватыўных сіл. «Да месца і ў час» назваў гэты выбар дэпутат-юрыст Дзмітрый Булахаў, з падачы якога кан'юнктурным чынам быў зменены рэгламент. «Вельмі мала і вельмі позна», — так ахарактарызаваў бы сітуацыю я, безумоўна, паважаючы дыпламатычныя, спікерскія і проста чалавечыя якасці новага Старшыні.**

**Думаецца, менавіта на часавую каардынату—верасень 1991-га! — найперш трэба зважаць, аналізуючы чарговы парламенцкі крызіс, які ўтварыўся на пачатку нечарговай сесіі.**

**Сціпласць нашага аналагу жнівеньскай расійскай рэвалюцыі тлумачыцца, магчыма, не столькі слабасцю «рэтранслятараў» (рэфармісцкіх сіл і дэмакратычных рухаў), колькі магутнасцю «хваляразаў» у выглядзе тутэйшых «абставін» і «спецыфікі». Партыйна-дзяржаўны апарат ні на імгненне не «прыпыніў» свайго існавання; як гэта ні парадаксальна, але абвяшчэнне суверэнітэту шмат у чым развязала яму рукі, дазволіла павыкідаць з калоды бітыя карты, перагрупавацца і з новай энергіяй узяцца за ажыццяўленне сваіх уладных дамаганняў. Што, уласна, і адбылося пад час выбараў у парламенце.**

**Ахвяраваўшы значнай часткай палітычнага іміджу Вячаслава Кебіча, «прыпынена-камуністычная» большасць захавала кантрольны пакет акцый і зноў засведчыла сваю зладжанасць і кіруемасць (узяць хоць бы факт непрыхаванага «выпадзення ў асадак» шасці-сямі дзесяткаў галасоў—вось ужо, сапраўды, «да месца і ў час»). У такім разе «цэнтрысцкая лінія», якую ўвасабляе Станіслаў Шушкевіч, усё часцей павінна будзе нагадваць нейкае адмысловае вязьмо, не кажучы пра тое, што лідэр парламента і прэм'ер мусяць зрабіцца «зацятымі сябрамі». На жаль, і апазіцыя засталася апазіцыяй, хоць мела вельмі і вельмі спрыяльныя шанцы значна пашырыць свой уплыў. Больш таго, дэпутацыя БНФ раскалолася паводле сімпатый ці то да Генадзя Карпенкі, ці то да Уладзіміра Заблоцкага; як высветлілася, жорсткай фракцыйнай дысцыпліне безумоўна падпарадкоўваюцца 21 дэпутат з 38-мі, а, напрыклад, Уладзімір Грыбанаў час ад часу можа выконваць сола... Такім чынам, усе засталіся пры сваіх інтарэсах, няхай сабе крыху і паскубаных у бойцы.**

**Найлепшым выйсцем з парламенцкага крызісу быў бы прыход новых лідэраў. Яны ёсць у гэтым Вярхоўным Савеце, але ў гэтым Вярхоўным Савеце няма каму за іх прагаласаваць. Мяркую, што гэта — самае драматычнае з усёй выбарчай калізіі.**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

# Станіслаў ШУШКЕВІЧ: «ВЯЧАСЛАЎ ФРАНЦАВІЧ ВЕЛЬМІ СТАНОЎЧЫ ЧАЛАВЕК»

**Увечары 18 верасня, ужо ў рангу Старшыні Вярхоўнага Савета БССР, С. Шушкевіч правёў прэс-канферэнцыю. Сярод іншага, ён адказаў на пытанне парламенцкага карэспандэнта «ЛіМа».**

**ПЫТАННЕ: Станіслаў Станіслававіч, напярэдадні сесіі вы досыць цесна кантактавалі з кіраўніком нашага ўрада, разам удзельнічалі ў працы Дзяржаўнага савета. Вячаслаў Францавіч казаў вам пра свой намер балаціравацца на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета?**

**Адказ:** Вы маеце рацыю, 16 верасня з 6 гадзін 30 хвілін раніцы да 24 гадзін ночы я з невялікімі перапынкамі быў разам з Вячаславам Францавічам. Спачатку мы ляцелі ў Маскву, пасля знаходзіліся на пасяджэнні Дзяржсавета.

Тут можа быць шмат пытанняў, але я папрасіў бы вас памятаць вось аб чым: я быў да гэтага часу перакананы і застаюся цяпер перакананы ў тым, што Вячаслаў Францавіч Кебіч — гэта той чалавек, які па праву ўзначальвае ўрад Беларусі. Ён здольны зрабіць значна больш, чым зрабіў.

Хацеў бы сказаць вам, што ў яго значна больш складанасцей, чым у мяне, бо я не звязаны ні з якімі згрупаваннямі — дэпутацкімі, партыйнымі і іншымі. А ў Вячаслава Францавіча відавочна ёсць пэўныя абавязкі і пытанні, так сказаць, гонару... Лічу яго вельмі станоўчым чалавекам. Мы не гаварылі пра тое, што ён будзе вылучаць сваю кандыдатуру; ён і не вылучаў, яго вылучылі.

Я, па праўдзе кажучы, думаў, што ён будзе паводзіць сябе інакш. Гэтага не адбылося. Ён меў на гэта права, і ніякіх закідаў у ягоны бок быць не можа.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ПАРТЫЯ ПАРАДОКСАЎ

**У дзяцінстве мне вельмі падабаўся дарэвалюцыйны верш пра Івана Сусаніна: «Куда ты ведешь нас? Не видно ни зги.— Сусанину с сердцем вскричали враги».**

**Больш за 70 гадоў кампартыя вяла і накіроўвала нас па метадзе Сусаніна. І прывяла. Усе 6 гадоў перабудовы партыя агрэсіўна адбівалася ад абвінавачанняў. За далучанасць да путча партыйнае кіраўніцтва таксама не адчувае асаблівага сораму. Гэта не здзіўляе. Упэўнена, што яно абсалютна не бачыць розніцы паміж законнай і незаконнай уладай, паміж законна абраным прэзідэнтам і самазваным дыктатарам, бо само гэтае кіраўніцтва больш за 70 гадоў кіравала намі, не маючы на тое ніякіх законных падстаў. Кіравала да таго, як быў прыдуманы славуты 6-ы артыкул, кіравала пры ім і збіралася кіраваць пасля яго адмены. Да таго ж, сама фармулёўка артыкула аб кіруючай і накіроўваючай сіле была такая туманная і расплывістая, што ніяк не давала падстаў партакратыі падмяняць сабой легітымныя органы ўлады.**

**Партыя кіравала явачным парадкам. Ад перавароту да перавароту. І гэтыя два перавароты маюць амаль эстэтычнае падабенства. Яны падобны як партрэт і шарж. У трагічны фарс ператварылася трагедыя. І на месцы сімбірскага двараніна (ён жа «предводитель мирового пролетариата») сеў вядомы ва ўрадавых колах брыдкаслоў і раскрадальнік сродкаў камсамола з тварам алкаголіка.**

**Дэмакратычны ўрад 17-га года вызваліў ахову ад абавязку сябе абараняць, каб не праліваць дарэмную кроў, і рэвалюцыйныя матросы прабіраліся ў Зімні, амаль не сустракаючы супраціўлення. Народ жа застаўся абыякавы да падзення свайго першага дэмакратычнага ўрада. Дэмакратычны ўрад 91-га года таксама сказаў сваім абаронцам расступацца перад танкамі. Але танкі не прайшлі, бо 70 гадоў не былі марнымі, бо народ вельмі дорага заплаціў за разуменне каштоўнасці дэмакратыі. Людзі стаялі насмерць, таму што, у адрозненне ад 17-га года, бачылі твар таталітарызму і ведалі, што іх чакае. У 17-м горшым відам несвабоды здавалася царская ўлада, пры якой Уладзімір Ільіч вёз у ссылку раяль. Хто мог меркаваць, што пазней магчымы цялячыя вагоны і паёк хлеба памерам з запалкавы карабок?**

...Дык што ж за партыя кіравала намі і чаму за 6 гадоў перабудовы яна так і не здолела рэфарміравацца? І ці партыя гэта?

Безумоўна, тое, што называлася РСДРП, было партыяй, якая абараняла інтарэсы рабочых. Але на здаровым падмурку сацыял-дэмакратыі быў узведзены пачварны будынак бальшавізму. Бальшавікі захапілі ўладу і гэта ўлада была незаконнай. За ўвесь час свайго кіравання яны выбіраліся на падставе роўнага, дэмакратычнага выбарчага права толькі адзін раз — ва Устаноўчы сход. І прайгралі. Сход быў разагнаны. Апазіцыйныя газеты закрыты. Разгромлены ўсе партыі-канкурэнты. І расстраляны дэманстрацыі «свядомых рабочых», ад імя якіх выступалі бальшавікі. А потым расстраляны кранштацкія матросы, рукамі якіх рабілася рэвалюцыя. Партыя стала манапольнай уладальніцай. Без канкурэнтаў. А калі так, навошта кіраваць праз дзяржаўныя органы? Праз партыйныя камітэты працэй. Склалася парадаксальная дзяржаўная сістэма: органы грамадскай структуры — партыі — сталі над легітымнымі органамі ўлады. Палітбюро, напрыклад, над Вярхоўным Саветам. Палітбюро вырашае—Савет афармляе. І адпаведна адказвае перад законам. Партыя ж, усё вырашаючы, не адказвае ні за што.

**Першы час, па інерцыі, яна яшчэ захоўвала рысы палітычнай арганізацыі, дзе ёсць свабода думак, дыскусій, платформы і фракцыі. Але яшчэ пры жыцці Леніна былі сфармуляваны два асноўныя прынцыпы існавання партыі —адзінства і дэмакратычны цэнтралізм. Гэта класічныя прынцыпы будовы таталітарнай арганізацыі. Абапіраючыся на іх, вельмі лёгка стала змагацца з партыйным іншадумствам: любую спробу свабоднага меркавання аб'яўлялі імкненнем да расколу. Партыйныя кіраўнікі ператварыліся ў прызначаных зверху чыноўнікаў. Супраціўленне любой партыйнай арганізацыі стала вельмі лёгка зламаць — перакінуць яе кіраўніка з поўдня на поўнач. Што і рабілася.**

**Дыскусіі хутка закончыліся. У партыі пачала ўладарыць толькі адна, генеральная лінія, якую ўвасабляў генсек. Троцкі накіраваўся за мяжу, што было вельмі ліберальна ў параўнанні з наступнымі «расстрэльнымі» гадамі. (Тав. Сталін хутка ўсвядоміў памылку, і яна была выпраўлена з дапамогай альпійскага ледаруба). Гісторыкі спрачаюцца — ці была ў Сталіна неабходнасць знішчэння практычна ўсіх дарэвалюцыйных членаў партыі? Думаю, што была. Неабходна было пазбавіцца людзей, якія ведалі, што такое палітычная партыя, якія яе формы, метады і прынцыпы існавання.**

Пачынаючы з «ленінскага прызыву», у партыю прыйшлі людзі, якія не мелі аб гэтым ніякага паняцця. Ім не было з чым параўноўваць. Большасць з іх наіўна меркавала, што быць членам палітычнай партыі—гэта значыць плаціць узносы і ўхваляць рашэнні кіраўніцтва, са стопрацэнтнай адданасцю. Паслухмянасць стала іх галоўнай дабрачыннасцю, а галоўнай эмоцыяй — страх. Партыя канчаткова аформілася як таталітарная структура, і радавыя камуністы страцілі якую б там ні было магчымасць уплываць на партыйную палітыку. Будучы нязгоднымі, яны нават не маглі адмежавацца, бо гэта пагражала расстрэлам. Згодны ты ці не — абавязаны выконваць! Партыйная дысцыпліна абавязвала іх падпарадкавацца і стаць у адзіную шарэнгу.

**Думаю, што звыклыя словы пра «высокае званне камуніста» хаваюць горкую праўду пра той маральны кампраміс, у якім вымушаны былі жыць сумленныя, прыстойныя члены партыі. Многія з іх не разумелі, што такое партыя, у якую яны ўваходзяць. І чаму ў добрых, сумленных, самаадданых камуністаў увесь час аказваецца кепскае кіраўніцтва. І чаму гэтае кіраўніцтва неабходна трываць, як кепскае надвор'е. Успамінаюцца разгубленыя пісьмы пасля выкрыцця «культу асобы» — «куды глядзела партыя?» А куды яна глядзела, калі Хрушчоў вырошчваў кукурузу і пагражаў прадэманстраваць усім «кузькину мать»? Калі Леанід Ільіч з зоркавым россыпам на грудзях рэкламаваў Малую зямлю ў якасці галоўнага плацдарма вайны?**

Партыя была верная інстынкту паслухмянасці. І гэты інстынкт быў настолькі моцны, што настаў момант, калі цярпенне пайшло на карысць. Партыя сцярпела свайго магільшчыка — перабудову!

Сёння грамадству вельмі патрэбны партыі, якія абараняюць інтарэсы людзей наёмнай працы. Неабавязкова рабочых: інтарэсы мільёнаў, для якіх пераход да рынку не будзе простым і лёгкім. КПСС такой партыяй магла стаць. Яна мела цудоўныя стартавыя ўмовы: арганізацыйны вопыт, грошы,



Фота А. ШАБЛЮКА.

паліграфічную базу. А галоўнае — людзей, якія хацелі апраўдаць сваю партыю перад народам. КПСС атрымала шанц адрадзіцца як палітычная партыя. Гэта зразумелі Бразаўскас і Руцкой, але наша партыйнае кіраўніцтва з упартасцю, дастойнай лепшага ўжывання, прадаўжала чапляцца за ролю дзяржаўнай структуры.

З дапамогай досыць своеасаблівага выбарчага закона кіраўніцтва КПБ атрымала большасць у парламенце. І бачыла задачу ў тым, каб застацца правячай партыяй. Але раней чым думаць пра статус правячай, трэба стаць **партыяй**. Красавіцкія забастоўкі паказалі абсалютную палітычную бездапаможнасць КПБ, неваloданне ёю метадамі палітычнай работы з людзьмі. Яна палічыла за лепшае дзейнічаць як дзяржаўная структура, якая «выхоўвае» народ штрафамі і судамі.

**Усё, што рабіла кіраўніцтва кампартыі, яно рабіла ад імя мільёнаў ціхмяных камуністаў, хаваючыся за іх сумленную, шматмільённую спіну. Цяпер яно грудзьмі абараняе ўласнасць партыі, зноў-такі сцвярджаючы, што гэта ўласнасць усіх камуністаў. Калі і дзе простыя камуністы, якія ўсё жыццё плацілі ўзносы, распараджаліся партыйнай уласнасцю? Партыю пакінулі тысячы людзей, але ніхто на развітанне не завязаў ім у клунак кавалачак гэтай самай уласнасці. Калі групы і фракцыі адколваліся ад партыі, ім заяўлялі, што ўласнасць непадзельная. Іначай кажучы, гэта ўласнасць вышэйшага партыйнага кіраўніцтва, якому расставацца з ёй абсалютна не хочацца. Тым больш, што грошы актыўна ўкладаюцца ў прадпрымальніцтва. Пры дапамозе партыйнай уласнасці наменклатура прагне далучыцца да класа капіталістаў, «буржуяў», выкарыстоўваючы партыйную тэрміналогію 17-га года, да «класа прыгнятальнікаў». Як бачна, «буржуі» ўжо не здаюцца гэткімі кепскімі сучасным кіруючым камуністам. Дык няўжо радавыя камуністы, гэткія ж бядотныя, як увесь наш бядотны народ, плацілі ўзносы дзеля таго, каб партыйнае кіраўніцтва харчавалася ў асобных сталоўках, атаварвалася ў асобных магазінах, праводзіла уікэнд на дачах і нарэшце, за кошт радавых членаў партыі, паспяхова ўлілося ў «буржуйскія» шэрагі?**

**Няўжо партыйныя масы цяпер ужо прыпыненай партыі дазволяць падмануць сябе чарговы раз? Я не сумняваюся, што партыйная наменклатура будзе шукаць цяпер новыя спосабы выжывання. Яна пастараецца сапраўды прыватызавацца. Яна паспрабуе паразітаваць на нацыянальнай ідэі. Але я спадзяюся, што радавыя камуністы ўжо не захочуць быць пешкамі ў руках наменклатуры. Я спадзяюся, што яны зразумеюць — не партыя існуе для выбарнага партыйнага кіраўніцтва, а наадварот.**

**Сорамна паказваць «шматмільённую армію» пад кіраўніцтвам бяздарных палкаводцаў. Час ужо нам усім успомніць пра сваю грамадзянскую і чалавечую годнасць.**

**Таццяна ПАЛЯКОВА,**
**інжынер-праграміст,**
**сябра БСДГ.**

ВЕСТКІ З ПАРТЫЙ

# Нацыянальная дэмакратыя: яе ідэі, практыка

**23—24-га чэрвеня 1990 года ў г. Мінску адбылася Устаноўчая канферэнцыя Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі (НДПБ). На гэтай канферэнцыі была ўтворана партыя, якая аб'ядноўвае тых, хто дбае аб лёсе шматпакутнага беларускага народа, змагаецца за нацыянальнае адраджэнне, вяртанне беларусам гістарычнай памяці, роднай мовы, культуры і рэлігіі.**

**З'яўленне Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі абумоўлена ў пэўнай ступені дзейнасцю на ніве Беларускага адраджэння Беларускага народнага фронту, імкненнем адданых беларускай справе людзей умацніць барацьбу за выратаванне беларускай нацыі.**

**БССР—адзіная з саюзных рэспублік, у якой амаль не гучыць дзяржаўная беларуская мова. БССР—адзіная рэспубліка, парламент якой на сесіях карыстаецца расійскай мовай, а не роднай. З усіх еўрапейскіх саюзных рэспублік толькі Беларусь да апошняга часу не выкарыстоўвала нацыянальную сімволіку (бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня») на дзяржаўным узроўні.**

**У той час, калі і Прыбалтыка, і Закаўказзе, і Украіна, і Расія рашуча ідуць у кірунку дэмакратыі, у Мінску знаходзяць прытулак «нінаандрэеўскія» неабальшавікі.**

**Мы, нацдэмы, глыбока перакананы, што шлях да новага грамадства ляжыць праз нацыянальнае адраджэнне, праз выхаванне свядомага беларуса, які шануе сваю родную мову, памятае сваю гісторыю, беражэ свой родны край.**

**Я неаднойчы пераконваўся ў тым, што ў кожнага беларуса, калі ён нават даўно абрусіўся і не валодае беларускай мовай, усё адно падсвядома жыве пачуццё нацыянальнай годнасці. Сіла і карані НДПБ—у беларускім народзе, які, нягледзячы на двухсотгадовае паднявольнае становішча спачатку ў Расійскай імперыі, а потым пад бальшавікамі, здолеў захаваць сваю мову і традыцыі, свае песні і паданні. Задача НДПБ—вярнуць беларускаму народу яго зямлю, усе яго багацці. Уласнасць робіць чалавека вольным, сацыяльна абароненым, ініцыятыўным і мысліцыям. Трэба вярнуць чалавеку яго-ную культурную адметнасць: нацыянальную свядомасць, мову і гісторыю. Неабходна вярнуць нашым людзям рэлігію. Дзякуючы рэлігійнаму светапогляду, чалавек здольны зазірнуць сабе ў душу, адкрыць у сабе святло дабра.**

**Найбольш прыдатны для беларускага адраджэння шлях у сусветную цывілізацыю ёсць шлях дэмакратыі і гуманізму. Шлях, якім ідуць многія краіны свету.**

**Анатоль АСТАПЕНКА,**
**старшыня Вышэйшае Рады НДПБ, кандыдат фізіка-матэматычных навук.**

# КАЛІ СЛУЖЫЦЬ, ДЫК СВЯТОЙ СПРАВЕ

**Інтэрв'ю з Генрыхам ДАЛІДОВІЧАМ**



**— Быў і ёсць Далідовіч-празаік, у апошнія гады ярка заявіў пра сябе Далідовіч-публіцыст. У якім рэчышчы павядзём *гутарку*?**

— Выбірайце самі, калі ласка.

**— Ці не лічыце вы, Генрых Вацлававіч, што ў сённяшняй складанай грамадска-палітычнай, эканамічнай сітуацыі проза, паэзія, адным словам, мастацкая літаратура нібы бяссільная? Адпаведна, наперад павінны выйсці іншыя, як кажуць, мабільныя жанры?**

— Асабіста я, Анатоль, лічу, што не трэба, як кажуць, вынаходзіць веласіпед. Даўно да нас светлыя і разумныя галовы сцвердзілі, што такое мастацкая *літаратура*, што ад яе патрабуецца і якую яна мае сілу. Сёння — не першы, а можа, дай Бог, і не апошні раз, калі мастацкая літаратура мусіць нібы прымоўкнуць. На гэта ёсць свая сітуацыя, свае прычыны. Але гэта зусім не азначае, што мастацкая літаратура бяссільная ў пераломныя моманты. Не. Многія сур'ёзныя паэты, празаікі штосьці пераасэнсоўваюць, назіраюць, асэнсоўваюць новае і рыхтуюць сябе да таго, каб сказаць і пра бурны, супярэчлівы адрэзак гісторыі сваё важкае слова (той-сёй ідзе і, як кажуць, па гарачых слядах). Урэшце найперш па ёй, мастацкай літаратуры, вывучаюцца эпохі, падзеі, норавы і звычкі, людскія ўчынкі — ці, дакладней сказаць, дзякуючы мастацкай літаратуры ўсё гэта паўстае найбольш выразна і пераканаўча. Так што...

**— Зразумела... У адказе вы ўжылі слова Бог. Як вядома, цяпер да праяў духоўнага свету людзей усё актыўней пачынае далучацца і рэлігія. Як вы, да слова, ацэньваеце гэтыя захады?**

— *Я* нарадзіўся ў былой Заходняй Беларусі, у каталіцкім асяроддзі, сярод так званых апалячаных беларусаў. Але паколькі нарадзіўся ў савецкі час, пасля вайны, дык маё, зразумела, духоўнае выхаванне працяглы час ішло раздвоена: з аднаго боку, дома, я рос, сталеў пад знакам каталіцкага, адпаведна, і польскага арэола, а з другога боку, у школе, на мяне ўплывалі беларускасць і наступальная атэістычная прапаганда (у нас барацьбу супраць Бога прыезджыя таварышы з усходніх рэгіёнаў рэспублікі, з Расіі вялі надзвычай актыўна і агрэсіўна, аж да таго, што трактарамі руйнавалі капліцы і крыжы).

Цяперашняя актывізацыя каталіцтва і праваслаўя, на маю думку, мае і дадатныя, і трывожныя моманты. Добра, што рэлігія аднаўляе ў беларускага народа веру ў святое, шчырасць, дабрыню, *але ж яна*, як вядома, выхоўвае і цярплівасць, пакору. Дзе-дзе, а ў нас, у беларусаў, апошняга як да рэвалюцыі, так і пасля яе было і ёсць звыш меры. І гэта (услед за гвалтам і рэпрэсіямі) у рэшце рэшт спрыяла выраджэнню нацыянальнай і чалавечай годнасці, рускай (пад знакам праваслаўя) і польскай (пад знакам каталіцызму) асіміляцыі. Ні каталіцызм, ні праваслаўе, на жаль, не згуртавалі, не паднялі беларусаў як народ, як той жа каталіцызм, ні праваслаўе, на палякаў, а тое ж праваслаўе—рускіх. У нас, у Беларусі, сярод каталіцкіх і праваслаўных святароў ёсць энтузіясты, якія хочуць як след сваімі сродкамі паслужыць беларускаму народу, але, баюся, што ў цэлым кіруючыя органы гэтых рэлігій захоплены сваімі мэтамі, як раней многія кіраўнікі КПБ, сыходзяць толькі да пэўных манеўраў. Адпаведна, *ролі*, якую павінны іграць пастыры з ліку нацыянальнай навуковай і творчай свядомай інтэлігенцыі, бадай, ніхто не заменіць.

**— *Нягледзячы на розныя* гістарычныя цяжкасці, беларус выжыў. Што, на вашу думку, гэтаму садзейнічала?**

— Цяпер, у часы новай адлігі, ужо не толькі вузкае кола філолагаў, гісторыкаў і іншых, але і шырокая грамадскасць зразумела: для нашага народа на працягу ўсяго гэтага тысячагоддзя было шмат задушлівых і горкіх не толькі гадоў, дзесяцігоддзяў, але і стагоддзяў. Жахлівая рэчаіснасць: каб не толькі ўвесь наш народ, але нават найбольш свядомая яго частка пратэставалі супраць захопнікаў і гвалтаўнікоў, іхняй антыбеларускай палітыкі, дык калі не выразалі б усіх цалкам, пад корань, дык самае малое перагналі б у Сібір. Наш знешне ціхмяны, паслужлівы, самаадрачэнны люд, ягоная жменька інтэлігенцыі ва ўсе, нават самыя жорсткія часы выжывалі: народ для свайго выратавання не паўставаў, а самаахвярна вылучаў сваіх верных Удовіных-сыноў: тых жа князёў Усяслава і Вячку, Скарыну, Гусоўскага, Буднага, Цяпінскага, Багушэвіча, Каліноўскага, Купалу, Коласа, Гарэцкага, Луцкевічаў, Жылуновіча, Чарвякова і іншых, у многіх выпадках аддаючы іх на здзек, на глум альбо і на бязлітасную расправу, а заадно дазваляючы ворагам уздымаць сыноў няверных і паганых, якія дзеля пасады, дзеля далікатэснага кавалка альбо прэстыжных прывілей згаджаліся прадаць не толькі сваю душу, *але і маці родную...* Мусіць, наш «прымітыўны» і ў той жа час загадкавы ды кемлівы беларус ведаў і ведае: рана-позна заслугі кожнага будуць ацэнены па-належнаму — і новымі Удовінымі-сынамі, і ім самім. За гэта ўсё можна крыўдзіцца на нашых дзядоў і бацькоў, папікаць іх за такую лінію паводзін, за такую навуку нам, наступнікам, але ў іх нельга кідаць камень і дазваляць рабіць гэта іншым — няўцямным ці непрыяцелям... Асуджэнне, нялюбасць, забвенне чакае таго, хто гэта робіць альбо гуляе, набывае сабе тлушчык на народным болі, на народных нібы не развітых, але ўсё ж глыбокіх пачуццях...

**— Давайце, Генрых Вацлававіч, вернемся да гутарні пра мастацкую літаратуру. Як, на вашу думку, яна выконвала сваю місію дасюль? Скажам, у часы застою?**

— *Паколькі вы, Анатоль,* чалавек малады, у літаратуру ўступілі нядаўна, фактычна ў часы перабудовы, дык вы, мабыць, як тыя ж «Тутэйшыя», найперш маеце на ўвазе старэйшых калег, хто працаваў у літаратуры ў так званыя гады застою, і хочаце папракнуць іх за многае.

Так, у нечым папрок гэты будзе слушны. Загнаны глыбока ў душу страх, няўхільны і мэтанакіраваны курс кіраўніцтва рэспублікі на русіфікацыю, малы слой свядомай нацыянальнай інтэлігенцыі, слабая падтрымка грамадства — усё гэта і іншае аб'ектыўна не забяспечылі грунту, каб на ім пісьменнікі як след праявілі сябе. *Але давайце не будзем ахай*ваць усё і ўсіх. Старэйшыя недагаворвалі, не могучы ўголас сказаць усё, што трэба было, многага не зрабілі як пісьменнікі і грамадзяне, той-сёй хітрыў, спакусіўся на прэміі і званні, але ў цэлым, лічу, літаратура трымала высока свой сцяг. На гэта настройвала сур'ёзная, аўтарытэтная праца Куляшова, Мележа, *Лобана*, Геніюш, Караткевіча, Стральцова, Грачанікава, Янішчыц і іншых, хто, на жаль, дачасна пакінуў нашыя шэрагі. Варты павагі і многія тыя, хто жыве і плённа працуе, а то нават цяпер, у спрыяльны час, набыў, як кажуць, другое дыханне.

**— Чыя творчасць сённяшніх пісьменнікаў вам найбольш падабаецца?**

— Асабіста мне — многіх. Я за тое, каб як след ацэньваць сумленную працу кожнага. Хіба можам не паважаць таго, што і як зрабілі нашы аксакалы — Танк, Брыль, Панчанка, Быкаў, Шамякін? Хіба можам не разумець таго, што і як зрабіла наша нядаўняе так званае сярэдняе пакаленне — Пташнікаў, Адамчык, Дамашэвіч, Барадулін, Гілевіч, Чыгрынаў, Вярцінскі, Бураўкін, Макаль, Сіпакоў, Свірка, Кудравец, Казько, Дайнека? Хіба можам не заўважыць, што і як зрабіла маё пакаленне — Жук, Коўтун, Камейша, Гігевіч, Гардзей, Законнікаў, Баравікова, Разанаў, Каржанеўская, Бондар, Дудараў? Ці не варта ўвагі генерацыя Рубанава і Лялько?

Агульнымі намаганнямі гэтыя і іншыя пісьменнікі не толькі сказалі важкае слова пра родны народ, але і паглыбілі выяўленчыя сродкі, мастацкасць беларускай літаратуры, абагацілі беларускую літаратурную мову і ў асяроддзі нацыянальнага нігілізму шчыра і некрыкліва ўтрымлівалі беларусаў як нацыю (зразумела, разам з іншымі свядомымі людзьмі, дзеячамі навукі, культуры і мастацтва). Думаю, не будзе перабольшання сказаць, што сёння не толькі свайму пакаленню, маладзейшым, але і зусім маладым даюць добры прыклад актыўнасці і дзёрзкасці Грахоўскі, Хомчанка, Сачанка (скажам, у публікацыі нам невядомага), Калеснік і іншыя, чый голас цяпер чутны часта і дарэчы.

**— Вядомы грузінскі пісьменнік Н. Думбадзе сказаў прыкладна так: дзе пачынаецца боль, там пачынаецца літаратура. Ад чаго ў сваёй творчасці адштурхоўваецеся вы, Генрых Вацлававіч?**

— У кожнага твора свая прадгісторыя, свае эмацыянальныя пачатак і напаўненне.

**— Вашы апавяданні і аповесці з кніг «Дажджы над вёснай» (1974), «Цяпло на першацвет» (1976), «Маладыя гады» (1979), «Міланькі» (1980), «На новы парог» (1983) і іншыя сфармавалі думку пра вас як пра аўтара твораў на сучасную тэму і раптам—гістарычная трылогія. Апошняе—з «узрыву» гістарычнай тэматыкі ў нас альбо, прызнайцеся, даніна модзе, жаданне лаўраў Караткевіча?**

— Сапраўды, усе мае першыя кнігі пра сучасныя вёску і горад. Пра тыя знешне малазаўважныя, але на самай справе зрушлівыя працэсы, што былі ў пасляваенныя, а найболей у 60—70-ыя гады ў нашым жыцці і ў людскіх душах. Я ніколі не захапляўся знешнімі эфектамі, моднымі павевамі, намагаўся як след даследаваць, скажам, учынкі, духоўны свет маіх земляхоў з былых заходнебеларускіх звычайных вёсак, у тым ліку і тых, што па волі лёсу трапілі на спісанне як неперспектыўныя, хацеў сказаць сваё слова пра сённяшніх настаўнікаў, якія ў новых умовах ужо новыя людзі (праўда, некаторыя крытыкі папікалі, што мае героі-настаўнікі занадта зямныя людзі, не Лабановічы), з ахвотай пісаў пра моладзь і каханне.

Што да гістарычнай трылогіі — гэта не даніна модзе і не прага караткевічаўскай славы, а вялікае жаданне сказаць сваё, па магчымасці праўдзівае слова пра пераломныя падзеі на пачатку гэтага стагоддзя, пра тых нашых слаўных, але пазней загубленых і зганьбаваных Удовіных-сыноў, якія здолелі падняцца як асобы самі і падаць голас нашаму люду, каб ён урэшце адчуў сябе не «тутэйшым» гуртам, а народам, сцвердзіў сваю дзяржаўнасць.

Як вядома, матэрыялы пра падзеі 1917—1919 (асабліва тыя, што датычыліся БНР, асобных беларускіх партый) вывезены кудысьці альбо запратораны за сяміпудовыя замкі, многія так званыя вучоныя-гісторыкі напладзілі пра тое горы маны, прыпісаўшы заслугу ў выратаванні Беларусі не яе слаўным сынам, а яе калі не ворагам, дык зусім абыякавым да яе людзям тыпу Мяснікова. Што да літаратараў, то многія абачліва абыходзілі той перыяд, а тыя, што спрабавалі падступіцца да яго, завалаў не адвярнулі. Скажам, Гурскі раманам «Вецер веку» сродкамі белетрыстыкі замацаваў афіцыйную хлусню, а Дайнека ў рамане «Людзі і маланкі» толькі да таго-сяго падступіўся, зазірнуў, але праз плот з калючым дротам не змог пералезці.

Пакрыху з розных крыніц (па заходнебеларускіх часопісах, *па неверагодна* цяжка здабытых замежных выданнях, па архівах, а таксама і па працах гісторыкаў) я вывудзіў тое-сёе пра тагачасныя падзеі і іх удзельнікаў, выстраіў сваю канцэпцыю і ў няпростым 1980 годзе прыступіў да працы і праз чатыры гады меў «Гаспадар-камень», яшчэ праз тры гады — «Пабуджаныя», а яшчэ праз два — «Свой дом». Значыць, амаль за дзесятак гадоў — трылогію «Гаспадар-камень».

**— Ужо «Гаспадар-камень» засведчыў, што ў ім *побач з* паказам жыцця сялян, інтэлігенцыі Налібоцкага краю напярэдадні першай сусветнай вайны прысутнічае даволі моцная нацыянальная ідэя. Ці лёгка было надрукаваць такі твор у 1985 годзе, фактычна яшчэ да перабудовы?**

— Спачатку я прапанаваў першы свой раман «Полымю». Там яму далі ў прынцыпе добрую ацэнку (што датычыць мастацкасці), але не падтрымалі, як вы кажаце, нацыянальнай ідэі — маўляў, я магу абудзіць у чытачоў тое і тое, а за гэта ўсім нам дадуць па шапцы...

*Што было рабіць?* Настойваць і дапусціць, каб твор пачаў хадзіць па інстанцыях? Спадзявацца, што падтрымаюць яго ў Маскве альбо за мяжой? Адзін і другі шлях быў нерэальны. Твор з т а к о й ідэяй у нас прылішняй аглосцы забракавалі б, а ў маскоўскіх выданнях можна было прадчуваць да яго абыякавасць — тым больш, што тады зашумелі не пра творы з нацыянальнай афарбоўкай, а пра «звышлітаратуру»... Паразважыўшы, я папрасіў прачытаць раман Грачанікава — тагачаснага *галоўнага рэдактара* «Маладосці». Анатолю Сямёнавічу твор спадабаўся, ён згадзіўся апублікаваць яго, але параіў зняць два раздзелы, дзе мой герой, Алесь Нямкевіч, настаўнік і свядомы беларус, трапляе ў Вільню — у «Нашу Ніву», а гэта значыць да Луцкевічаў, а заадно параіў падкрэсліць, што гэты Нямкевіч змагаецца за нацыянальнае адраджэнне беларускага народа, але ў саюзе з Расіяй. Я згадзіўся. Твор быў прапанаваны да друку, але... ім спачатку «занялся» адзін з мастацтвазнаўцаў, а пазней, калі Грачанікаў не паслухаў яго і не «снял, как есть информация, националистическое произведение», галоўліт накіраваў яго на рэцэнзію ў партінстытут. Раман трапіў да М. Сташкевіча, і той (мы тады былі незнаёмыя), на шчасце, упадабаў яго і падтрымаў «з ідэйнага боку».

*Пішучы* «Пабуджаныя», урываючыся ў бурны і супярэчлівы на Беларусі 1917 год, дзе кульмінацыяй быў гвалтоўны разгон бальшавікамі законнага снежаньскага Усебеларускага кангрэса (а гэта ўжо і разгон дэмакратыі), я ведаў: не ўдасца мне не толькі сказаць тое, што хачу, пра Луцкевічаў, Лёсіка і іншых, хто тады ўзваліў на сябе асноўны клопат пра наш народ, але і ўвогуле назваць іхнія прозвішчы ў станоўчым кантэксце. Хлусіць, паклёпнічаць не хацеў. Адпаведна, му*сіў выбраць адмысловы шлях*: тое-сёе апускаць у падтэкст, многіх асоб не называць іхнімі сапраўднымі імёнамі, мяняць іхнюю біяграфію, але мець іх на ўвазе. У наступным рамане, у «Сваім доме», дзе спроба паказаць, як і кім утвараліся БНР і БССР, я мог ужо ўжываць сапраўдныя прозвішчы, але, на жаль, трэба было ўлічваць той прыём, што быў закладзены ў папярэдніх творах. Дарэчы, і «Пабуджаныя», і «Свой дом» таксама ішлі пад «патранажам» Сташкевіча. На яго было нямала нападак у друку за, *мякка* кажучы, кансерватызм, але асабіста мне ён нямала дапамог як парадамі, так і дакументамі. Як і гісторык Скалабан, пісьменнік Ялугін. Як Зоська Верас. Яна неяк дачулася пра маю працу, тое-сёе прачытала, прыслала мне цёплы ліст і праз добрых людзей дала мне магчымасць пакарыстацца матэрыя*ламі*, якіх я не атрымаў у архівах, якія, думаю, не трымалі ў руках многія гісторыкі.

Урэшце пра сваю трылогію скажу шчыра: я не перабольшваю яе значэння, але і не хачу прыніжаць сваёй нялёгкай дзесяцігадовай працы. Магчыма, тое, што я зрабіў, паспрыяе камусьці іншаму пайсці іншым шляхам і ўсё назваць сваімі імёнамі.

**— Мне здаецца, што вы, Генрых Вацлававіч, у гэтай трылогіі вытрымалі сур'ёзны экзамен. Тым не менш ёсць уражанне, што вы ўсё ж не ўніннулі традыцыйнай канцэпцыі аб непазбежнасці сацыялістычнай рэвалюцыі, аб яе светлых ідэалах. Ці не патрабуе гэтая канцэпцыя перагляду?**

— Можа, і патрабуе. Але давайце на падзеі 1917—1919 гадоў, якія я спрабаваў адлюстраваць на беларускім матэрыяле, глядзець не толькі па-сённяшняму, але і вачыма тагачасных сучаснікаў. Тым больш, што тыя ж Луцкевічы, Лёсік і іншыя былі прыхільнікамі рэвалюцыі, сацыялізму, а Жылуновіч, Чарвякоў, што зрабілі, зда-

ецца, немагчымае, каб вырваць з учэпістых рук руйнавальшчыкаў нацыянальнага і прыхільнікаў сусветнай рэвалюцыі Беларусь Савецкую, ішлі на платформе Кастрычніка і яго ідэалаў. Іначай яны нават «папяровай» беларускай дзяржаўнасці не дабіліся б. А па-другое, ідэя сапраўднага сацыялізму (не таго, што быў 70 гадоў у нас), здаецца, яшчэ не пахавана, яна можа рана-позна напоўніцца новым зместам і пад той ці іншай назваю залунаць над светам.

**— Будзеце працягваць трылогію?**

— Відаць, не. Не варта захапляцца доўгімі цыкламі. Вопыт паказвае, што нават не ўсе класікі могуць саўладаць з імі, штосьці трацяць з кожнай новай «серыяй».

**— Дык што цяпер на рабочым стале Далідовіча-празаіка?**

— Раман пра першыя пасляваенныя гады ў былой заходнебеларускай вёсцы, калі мясцовы люд спрабуе акрыяць, стаць на ногі пасля цяжкай вайны, а прыезджы кіруючы таварыш вучыць «новаму ладу жыцця». Заадно пішу апавяданні на гарадскую тэматыку (у тым ліку і пра каханне), публіцыстыку.

**— Генрых Вацлававіч, вы нядаўна ўзначалілі часопіс «Маладосць». Нялёгкая гэта ноша?**

— У часопісе «Маладосць» я з застойных часоў, з 1979-га. Але дух, закладзены ў выданні галоўнымі рэдактарамі Кулакоўскім, Панчанкам, Асіпенкам, Бураўкіным, Зуёнкам, Грачанікавым, такі, што яно і ў самыя неспрыяльныя часы было дэмакратычнае, здолела друкаваць складаныя творы і Быкава, і Караткевіча ды іншых. Калі пачалася перабудова (да нашай рэспублікі яна ішла вельмі марудна), мы, маладосцеўцы, рашылі не вычэкваць лепшых часоў, а набліжаць іх. Адсюль — наша жаданне даць магчымасць філолагам і не толькі ім нарэшце пачытаць у поўным аб'ёме «Мужыцкую праўду», публіцыстыку Цішкі Гартнага, сродкамі якой ён вёў змаганне за абвяшчэнне Савецкай Беларусі, даць святло «Старажытнай Беларусі» неафіцыйнага гісторыка і «нацдэма» Ермаловіча, дзённіку-раману Геніюш, мемуарам Драздовіча, дакументальнай кнізе Гігевіча і Чарнова пра чарнобыльскую бяду на нашай зямлі і іншым творам, за якія нас трэслі ідэолагі, пагражаючы адабраць партбілеты і зняць з работы, але якія натуральна ўзбагацілі нашу літаратуру.

Цяпер, калі няма цэнзуры, галоўнаму рэдактару нібы лягчэй. Але гэта не так. Па-першае, узнікла шмат новых праблем, галоўная з іх — выжыванне беларускамоўнага выдання (цяпер нам падстаўляе плячук ЦК ЛКСМБ). А па-другое, патрэбны сур'ёзныя намаганні, каб гуманістычны і мастацкі ўзровень мастацкага слова быў высокі, каб творы для друку адбіраліся цікавыя і змястоўныя. У нашай сітуацыі — гэта найперш нялростая, карпатлівая работа з моладдзю. У гэтай рабоце неабходна многае: і высокі прафесіяналізм, і такт, і прынцыповасць. Якраз адсюль наша намаганне даваць зялёнае святло і творам масцітых, і кожнаму ўдаламу дэбюту.

**— Па сабе ведаю, што «Маладосць» дбайна працавала і працуе з пачаткоўцамі. Многія маладыя свае першыя кнігі выдалі іменна ў вашай «Бібліятэцы». Сыс, Навярыч, Федарэнка, Шах, Рублеўская, Рубін. Скобла, Станкевіч, Сцяпан, Кавалёў, Афанасьеў і г. д. На сённяшні дзень ці не дзесяць вашых хрэснікаў па «Бібліятэцы» сталі членамі Саюза пісьменнікаў. Яна захаваецца альбо, не дай Бог?..**

— «Бібліятэку часопіса «Маладосць» абавязкова трэба ўтрымаць. Найперш для здольнай моладзі, для яе хутчэйшага старту ў літаратуру. Адпаведна, моладзі трэба больш дбаць, каб не толькі стаць аўтарамі самастойнай маладосцеўскай кніжкі, але каб гэтая кніга вытрымлівала канкурэнцыю з кнігамі іншых выдавецтваў. Бывае, той-сёй (у тым ліку і з членаў Саюза пісьменнікаў) дазваляе сабе паслабку: лепшае сваё здае ў «Мастацкую літаратуру», а нам сплаўляе тое, што туды не падышло. Не толькі ад нас, супрацоўнікаў «Маладосці», залежыць, якога ўзроўню будуць бібліятэчныя кніжкі, але і ад саміх аўтараў. Чым вышэйшая якасць іхніх твораў—тым большы імідж часопіса і літаратурнага дадатку да яго.

Дарэчы, пра аўтараў-публіцыстаў. Асабіста я вельмі перажываю, што ў нас мала маладых і здольных, дзёрзкіх юнакоў і дзяўчат, якія б актыўна і грунтоўна пісалі б на грамадска-палітычныя, эканамічныя і навуковыя тэмы. Незадаволеных, усё і ўся крытыкуючых шмат, а руплівіцаў на гэтай ніве — адзінкі. А які часопіс без надзённай і праблемнай публіцыстыкі?

**— Далідовіч-рэдактар і адносіны да асабістых сімпатый, да групавых інтарэсаў? Як ведаем, гэтыя якасці могуць уплываць і на характар выдання. «Огонёк», «Наш современник» — прыклады таму...**

— Разумею пытанне — і тое, што за ім... Як кожны чалавек, як літаратар, прынамсі, маю свае сімпатыі, агульныя інтарэсы з аднадумцамі. Але ў свае ўжо гады разумею: свае сімпатыі, свае інтарэсы маюць і іншыя. Па пісаных і няпісаных законах кожны мае права на сваю думку, на сваё слова — абы гэтае права не спажывалася на антычалавечае, на антыгуманнае. Што да кіраўніка літвыдання, дык ён мусіць мець шырокі кругагляд, талерантнасць, цярпімасць і ў той жа час пазіцыю. Справа тут, як разумею, не толькі ў тым, каб некаму спадабацца альбо насвавоіць, справа ў тым, каб не распальваць без дай прычыны сыр-бор, не сутыкаць ілбамі разумных людзей, а кансалідаваць усіх для адной агульнай і карыснай усім справы.

**— Адпаведна, асабіста вы, Генрых Вацлававіч, падтрымліваеце і так званыя вясковую і гарадскую прозу, і авангардызм, і сюррэалізм. Гэта значыць, новыя плыні, што пачалі выяўляцца і ў нашай, найперш маладой, прозе. Лічу, што ніяк нельга абмінуць размову і пра крытыку. Відавочна, узаемаадносіны пісьменнік — крытык вельмі няпростыя. Некалькі слоў пра вашае суіснаванне з крытыкамі, пра тое, выконвае альбо не выконвае цяперашняя наша крытыка сваю місію.**

— Асабіста я зведаў living розные ад крытыкаў — падтрымку (Юрэвіч, Андраюк, Дзюбайла, Ламека, Ігар Жук), адкрытае (у друку) і закрытае (у выдавецкіх рэцэнзіях) збіццё, асцярогу. Было, я ўступаў у дыскусіі з асобнымі крытыкамі, не згаджаўся з іхнімі поглядамі.

Што да місіі крытыкі на сучасным этапе, дык я, далібог, гэта ўяўляю не зусім акрэслена. Ёсць час, калі крытыка (альбо літаратуразнаўства) павінны не толькі асэнсоўваць гісторыю і сучаснасць, літаратурны працэс на розных этапах, але і тое-сёе па-свойму тлумачыць, прапагандаваць, дзярзіць, падымаць прозу і паэзію, а ёсць час, калі крытыка павінна альбо мусіць замаўчаць на пэўны час. Цяпер, як адчуваецца, у нашым літаратуразнаўстве таксама ідуць пэўныя пераацэнкі, зрухі, а вось крытыка вычэквае. Як сведчанне таго — малая колькасць рэцэнзій на новыя творы, а таксама свежых артыкулаў. Асабіста я з цікавасцю прачытаў бы, што і як пісалі б цяпер пра сучасную літаратуру Адамовіч, Каленік, Бугаёў, Каваленка, Тычына, Клышка, Лойка, Арочка, Шупенька, Дубавец і іншыя, хто ўмее самастойна мысліць, мае сваю пазіцыю, свае моцныя і слабыя бакі, без каго часамі сумнавата.

**— Дзякуем, Генрых Вацлававіч, за шчырую гутарку. Жадаем асабіста вам, а таксама і справе, якой вы прысвячаеце жыццё, поспехаў.**

Гутарыў
**Анатоль КАЗЛОЎ.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ПАЛІЧЫЎ ЗА АБРАЗУ...

Калі паўтара года назад у «ЛіМе» (гл. нумар за 26.01.90) з'явіўся мой артыкул «Учора, сёння... і заўтра школьных падручнікаў па літаратуры», мне здавалася, што гаворка ў ім ідзе пра агульнавядомае, даўно наспелае і што наўрад ці каму прыйдзе ў галаву думка аспрэчваць яго. І таму, калі ў сёмым нумары часопіса «Полымя» за мінулы год Р. Шкраба надрукаваў свой артыкул «Супраць нігілізму і дылетанцтва ў літаратуразнаўстве», я ўспрыняў яго не як імкненне прадоўжыць гутарку аб праблеме адбору мастацкіх твораў для школьнай праграмы па беларускай літаратуры, а ўсяго толькі як спробу абараніць «гонар мундзіра», абараніць падручнікі, якія ў свой час Рыгору Васільевічу давялося пісаць і якія, як ён любіць паўтараць, займалі першыя месцы на рэспубліканскіх конкурсах.

Неўзабаве ў «ЛіМе» з'явіўся вялікі і грунтоўны, на маю думку, артыкул Т. Чабан, які, здавалася, расставіў усе кропкі над «і». Але і яго паважаны Р. Шкраба палічыў за абразу сябе, таму выступіў у «Полымі» з чарговым, другім па ліку артыкулам «З песні слова не выкінеш». Там ужо дасталося не толькі мне, але і Т. Чабан. Вядома, можна было б прамаўчаць і на гэты раз, маўляў, чытач сам разбярэцца, дзе ісціна. Але часу пасля публікацый маёй і Т. Чабан прайшло шмат, многія ўжо забыліся, пра што там ішла гаворка, а грахоў у сваіх апанентаў Рыгор Васільевіч вышукаў такіх, што хоць ад іх адхрышчвайся.

Адразу ж хачу супакоіць Рыгора Васільевіча і ўсіх, хто яму паверыў: я нічога не маю і ніколі не меў супраць вершаў «Мая Бесядзь» і «Над брацкай магілай» А. Куляшова. Як нічога не маю супраць твораў П. Панчанкі і М. Танка, змешчаных у школьных чытанках,— гэтых паэтаў я сам вельмі люблю і паважаю. Не пра якасць іхніх вершаў ішла гаворка ў маім артыкуле, а пра **свядомую ідэалагізацыю школьнай праграмы,** калі ўсе — ад першай да апошняй старонкі — падручнікі напісаны з аглядкай на марксісцка - ленінскае разуменне задач літаратуры. Упэўнены: з вершаў і паэм названых паэтаў можна скласці не адну цудоўную школьную хрэстаматыю. Але ж не трэба забывацца, што ў нас яшчэ ёсць В. Быкаў, Я. Брыль, У. Караткевіч, а яшчэ М. Гарэцкі, А. Гарун, А. Мрый, Л. Геніюш... На шчасце, гэты спіс можна доўжыць і доўжыць, бо ў літаратуру стала ўвайшлі новыя пакаленні. Таму, па-першае, адбіраць трэба — асабліва для завучвання на памяць! — «самае-самае» (тут, вядома, могуць быць варыянты, асабліва, што тычыцца паэзіі), а па-другое, творы павінны адлюстроўваць жыццё ва ўсіх яго супярэчнасцях, шматгранна і, вядома ж, праўдзіва. А не так, як гэта хочацца той ці іншай партыі ці, скажам, Міністэрству адукацыі.

«Як можна «зняць» твор, які стаў фактам літаратуры?» — недаўменна пытаецца Р. Шкраба, палемізуючы з Т. Чабан наконт неабходнасці выключэння са школьнай праграмы куляшоўскіх «Камуністаў». Праўда, тут жа дадае, што сёння пра гэты верш ён пісаў бы па-іншаму. Што ж, тады давайце вернем у хрэстаматыі вершы пра Сталіна, Яжова, Варашылава, — таксама ж факты літаратуры. Яно, вядома, было б ідэальна: праўдзіва паказаць вучням усю гісторыю станаўлення і развіцця беларускай літаратуры. Але баюся, што тады давялося б выкінуць са школьнай праграмы які-небудзь прадмет, можа, нават не адзін.

Цяжка спрачацца з Р. Шкрабам пра тое, ведаў ці не Купала аб сталінскіх злачынствах, бо сам пясняр прамых доказаў нянавісці да дыктатара не пакінуў. Але надта ж цяжка паверыць у тое, што Купала, які ў цяжкую хвіліну хацеў скончыць жыццё самагубствам, не здолеў заўважыць тое, што тварылася побач. Дарма мы баімся, што вершы Купалы, дзе ён усхваляе «бацьку ўсіх народаў», прыніжаюць годнасць паэта. Боязь гэта дарэмная, бо за падобнымі вершамі стаіць не віна, а бяда, трагедыя не толькі Купалы, а цэлых народаў.

Не буду падрабязна спыняцца на некаторых іншых прэтэнзіях Р. Шкрабы да сваіх апанентаў. Ды і што можна сказаць у адказ шаноўнаму літаратуразнаўцу, які, напрыклад, сцвярджае: «А. Бадак адстойвае сваё права на «змрочныя фарбы і шэрыя тоны» ў творчасці. Што ж, вольнаму воля... Толькі мне здаецца, што робіць ён гэта не падумаўшы, у выніку дылетанцкага, калі не сказаць вульгарнага, разумення эстэтычных катэгорый». Ды ніколі я такога не сцвярджаў! А ўсяго толькі заўважыў у сваім артыкуле, што ў творчасці П. Панчанкі ёсць не адны «светлыя фарбы», і пра ягоную паэзію апошніх гадоў таксама — абавязкова! — трэба гаварыць на ўроках беларускай літаратуры. Між іншым, падобных «непаразуменняў» у публікацыях Р. Шкрабы даволі шмат і яны не робяць аўтару гонару.

Але самае галоўнае, з чым нельга пагадзіцца, дык гэта з тым, што, як лічыць Рыгор Васільевіч, школьная праграма і падручнікі па літаратуры не патрабуюць асаблівых змен. Маўляў, трэба толькі змяніць некаторыя плюсы на мінусы ў ацэнцы тых ці іншых твораў альбо з'яў у літаратуры, апусціць пару пастаноў партыі па гэтых пытаннях і — калі ласка, дзеці, чытайце, вывучайце беларускую літаратуру.

На заканчэнне некалькі слоў пра тон публікацый Р. Шкрабы. У першай з іх толькі і спатыкаешся на ягоных характарыстыках: «вульгарны», «дылетанцкі» падыход, «невуцтва»... Праўда, у другой публікацыі гэтых слоў ужо няма (добра і тое), але і тут Рыгор Васільевіч не ўцярпеў, прыдумаў-такі, чым укалоць сваю апанентку. У канцы публікацыі ён цытуе адзін з артыкулаў Т. Чабан, напісаных ёй у 1986 годзе: «Сёння, як ніколі, ва ўсіх сферах жыцця, галінах вытворчасці ўзрастае роля «чалавечага фактару», на што неаднаразова звярталася ўвага ў пастановах партыі і ўрада». Ну, і якая тут «крамола»? — спытаецеся вы. А вось якая. «Не буду называць пісьменнікаў, якія ў той час ужо аплацілі сваім лёсам кожнае слова, аплацілі толькі за тое, што не падтрымалі некаторых пастаноў партыі і ўрада», — недвухсэнсоўна намякае аўтар. Як кажуць, і смех, і грэх!..

Хочацца прыгадаць словы самога Р. Шкрабы: «Крытыкуючы іншых, трэба быць гатовым да таго, што пакрытыкуюць і цябе». Адрасаваў іх літаратуразнаўца сваім апанентам, але, думаецца, пра іх трэба памятаць усім без выключэння, хто бярэ ў рукі чысты аркуш паперы.

**Алесь БАДАК.**

# Да пытання аб праграмах

**Шаноўная рэдакцыя!**

**Перагортваючы леташнія сшыткі свайго сына, я знайшла яго сачыненне па п'есе К. Крапівы «Партызаны». Погляд падлетка на праграмны твор класіка беларускай літаратуры мне здаецца не зусім звычайным.**

**Я высылаю вам сачыненне, нічога не мяняючы. На мой погляд, для нас, дарослых, ёсць падстава паразважаць пра станоўчага героя ў беларускай літаратуры і пра школьную праграму па ёй.**

**Пастаянны чытач «ЛіМа»**
**МАТУСЕВІЧ Валянціна Аляксандраўна.**

●

**На вялікі жаль, п'еса К. Крапівы «Партызаны» мне зусім не спадабалася. Ёсць у ёй старонкі, напісаныя на добрай беларускай мове, адчуваецца, што аўтар валодае жывым народным словам, але гэта і ўсё станоўчае, вартае ўвагі. Мне здаецца, што ў п'есе няма ніводнага станоўчага героя—ні «белага», ні «чырвонага». Даніла Дрыль? На папрок Яндрыхоўскага: «Забойца маткі мае?» Даніла адказвае: «Ты забойца тысяч людзей, якія ў тысячу разоў вартней за тваю матку». І ўсё. Ці патрэбны каментарыі к гэтаму дыялогу? Абодва забойцы.**

**Скіба? «Забяжыш у вёску, і адразу відаць, хто чым дыша: хто малаком поіць, а хто мяркуе, каб вінтоўку з рук вырваць». А што далей? Тыя, хто «малаком паіў», сталі членамі камуністычнай партыі, каб кіраваць і навучаць астатніх. Каго навучыць не здолелі—«вораг народа». Такія, як Скіба, паспяхова пісалі даносы ў 1937 годзе. Ды і ў наш час нешта не пераводзяцца ворагі скіб ды дрыляў, «ворагі народа». Як і ў аповесці З. Бядулі «Салавей», на старонках «Партызан» сяляне знішчаюць панскія маёнткі. Разбурылі дамы, цэрквы, сады. А што пабудавалі? Інтэрнаты, «хрушчоўкі» ды такія хаткі, як у Рыгора.**

**Жудаснае ўражанне пакідае «каханне» Рыгора і Кацярыны. Яна не хоча ісці замуж за жабрака? Мае рацыю. Ад іх дыялога пра хатку—**

**КАЦЯРЫНА: «І прусы ёсць?.. Я б у гэткай хаце ніколі не жыла».**

**РЫГОР: «Прывыкла б і жыла. Гэта толькі спачатку страшна»,—мароз ідзе па скуры.**

**Мусіць, К. Крапіва прадбачыў нашу будучыню—прывыклі і жывём.**

**Падзеі разгортваюцца далей.**

**Пісьменніку неабходна даказаць, што раз Кацярына багатая—яна дрэнная, а бедны Рыгор мусіць далучыцца да прадстаўнікоў свайго класа. І вось ужо Кацярына — маладая прыгожая дзяўчына—штурхае Рыгора на забойства. Ён «б'е яе нажом у грудзі. Кацярына падае на падлогу». «Дык здохні ж ты лепш, гадаўка!» — апошні зварот Рыгора да каханай.**

**Але на гэтым «каханне» не скончылася! «Павесьце яго, пане, на клёне перад акном нашай хаты»,—адказ Кацярыны. Улада зноў змянілася, і Рыгор «цэліцца з вінтоўкі ў Кацярыну». Яго лепшы сябар, бальшавік Даніла, кажа: «Чакай! Не цяпер!»**

**Цікава, як і калі яны расправіліся з Кацярынай?**

**Можа, я нічога не зразумеў у гэтай п'есе, але ні Даніла, ні Скіба, ні Рыгор мне не спадабаліся.**

**У п'есе ёсць сапраўды народныя тыпы: маці Данілы, бязвінная ахвяра, сціплая Настуля, дзед Бадыль. Менавіта дзед Бадыль заўважае: «Усяго і злосці ў нашага чалавека, што скляне ад шчырага сэрца, зачыніўшыся ў хаце». Здаецца, і сёння мы такімі засталіся. А ці так ужо трэба распальваць варожасць паміж людзьмі? Можа, у дабраце і памяркоўнасці сіла беларусаў, а не слабасць?**

**У п'есе К. Крапівы «Партызаны», гаворачы словамі з падручніка, адсутнічае эстэтычны ідэал, альбо, можа, я яго не разгледзеў?**

**Аляксей МАТУСЕВІЧ, СШ № 54.**

г. Мінск.

Сяргей ГРАХОЎСКІ



## Сузор'е лебедзя

І пайшоў на дно мора сіняга
Страцім-лебедзь — моцны, горды птах.
Максім БАГДАНОВІЧ.

Над заінелым Млечным шляхам
Сузор'е грознае мігціць
І свеціць пералётным птахам,
А Страцім-лебедзь не ўзляціць.

Ён на сябе прыняў пакуты,
Ён біўся да апошніх сіл,
Пякельнай доляю прыкуты
Да паламаных дужых крыл.

І толькі ў змрочным паднябессі,
Над прорвай цёмнае вады,
Да зор яго ўзнялася песня
І не змаўкае праз гады.

У ёй душа яго сягоння
І голас вечна малады.
І ўсё ляціць, ляціць пагоня
Далей ад здрады і бяды.

У лебядзінай песні — вера,
Якой не страціць, не скарыць.
Над Млечным шляхам і Венерай
Адвечная душа гарыць
І свеціць, свеціць нам усім —
Максім.

## Даруйце

Даруйце нам, дзеці, даруйце, унукі,
Што ў свет вас пусцілі на доўгія мукі.
Пакутнікі самі, з калыскі да скону
Бяздумна маліліся мы Фараону.
Тупыя апрычнікі складна хлусілі,
Мы верылі ім, а пасля галасілі,
Калі нас у «чорныя вораны» гналі,
Калі ад пелагры і куляў канаплі.
Злачынства апраўдвалі: «Кат вінаваты»,
А ката змянялі мудрэйшыя каты
І ўсім затуманьвалі душы і розум
Ружовай хлуснёю і змрочным гіпнозам.
Даруйце нам, дзеці, даруйце, унукі,
Тамы не патрэбнай нікому «навукі» —
Там — казкі і міфы, казённыя словы,
Што з ранку да ночы тлумілі галовы.
Калі ж перасталі мы верыць у казкі,
Не ўсе апантаныя скінулі маскі,
Не ўсе адракліся дзікунства старога,
І мараць ізноў пра крывавага Бога.
Даруйце нам, дзеці, даруйце, унукі,
За нашы і вашы пякельныя мукі,
Углядайцеся пільна уважлівым зрокам,
І толькі не верце ілжывым «прарокам».

●

На восень пазірае лета
Вачмі зажураных азёр,
І жаўрукова песня спета,
І столькі высыпала зор!

Пасохлі позднія вяргіні
З юначых і забытых сноў:
Прыгожае дачасна гіне
І не вяртаецца ізноў.

Наўкола пуста і маркотна,
Жывыя моўкнуць галасы,
Да болю ў сэрцы,
незваротна
Знікаюць рэкі і лясы,

І чалавек за чалавекам
За ўсе пакуты заслужыў
Прытулак пад сасновым векам,
Нібы ніколі і не жыў.

І я сваю чакаю рату,
На свет гляджу з юначых сноў,
І не лічу за стратай страту,
Каб нарадзіцца зноў і зноў.

## Пад небам Беларусі

Хацеў накінуць на сябе пятлю,
Бо змогся ад жыцця такога:
Здалося, што нічога не люблю,
І кончылася ўласная дарога,

І больш ужо няма куды ісці,
Ніколі ўжо не вырвацца на волю,
Бо не было ў маім жыцці
Нічога, апрача бяды і болю.

За вокнамі асенні дождж
Адлічвае апошнія хвіліны.
Далей схаваю ад спакусы нож,
Перахрышчуся і пятлю накіну.

Зірну наўкол праз вузкае сіло,
Убачу свет іскрысты і бясконцы...
І раптам нечакана узышло
І засляпіла вочы сонца.

На вецці, на ігліцы, на лістах
Дрыжаць, нібы вясёлкі, завушніцы,
І адышоў пякельны страх,
Калі ў званы ударылі званіцы.

І закарцела гэты верш злажыць.

Уладзімір МАЗГО



●

Няміга.
Калідор пусты
Метро начнога.
Цераз стагоддзя пласты
Бруіць дарога.

Нырае
У котлішча вякоў
З вышынь прагрэсу.
Зямля —
Па волі землякоў —
Зняла завесу...

Няміга.
Станцыя метро.
Гудок світальны.
Вось-вось
Падземнае нутро
Раскрые тайны.

А там —
Бяссонная рака
Забытым гулам
Напомніць хоча
Менчукам
Аб іх мінулым...

●

Адчуеш
Рабскія пакуты,
Да ланцуга чаргі
Прыкуты,
Калі шкарпэткі
Ці шпалеры
Бяруць асадаю
Галеры
Пакупнікоў-грабцоў
У скрусе
Ля «ГУМа»,
«ЦУМа»,
«Беларусі»...

Тады сябе
Рабом адчуеш,
Калі ў чарзе
І заначуеш,
І не спужаешся
Хваробы,
Каб паўтарыць уранні
Спробы.

Чаканне
Новага тавару...
Адзін другога
Знаюць з твару.
— Каторы ты?
— А ты каторы?..—
Нервова высветляць
У зморы,—
Ад поту мокрыя,
Што ў лазні,
Пад нумарамі,—
Людзі-вязні...

## Вуліца юнацтва

Алесю ПІСЬМЯНКОВУ.

Ты помніш
Вуліцу юнацтва
І наш студэнцкі
Інтэрнат,
Дзе дружба цэніцца,
Як брацтва,
А кожны сябар,—
Нібы брат!..

Там расчыняліся
Нам далі,
Вясной абуджанай,
Зямлі,
І нават тыя
У падвале —
Вышэй астанкінскіх
Былі.
Мы там жылі
І шчыравалі,
Нектар каханых губ
Пілі...
Замест
Ранейшай магістралі —
Яе
Праспектам нараклі.

Нібы далонямі,
Атуліць
Мяне кварталамі
Ізноў...
Хаця мяняюць
Назвы вуліц,
Але нязменная —
Любоў...

●

Такая сёння ціша,
Якую спудзіць —
Грэх.
Хай ночка закалыша
І сон,
І стогн,
І смех...

Рамонак не хіснецца,
Не плешчацца рака,
Калі
Ляжыць на сэрцы
Тваім —
Мая рука.

Дыктуе штосьць
Імкліва
Двух сэрцаў унісон.
І ноч
Бярэ маўкліва
Пад зорны парасон.

І я
Лічу за шчасце
На сонным мурагу
Да келіха прыпасці
Тваіх
Мядовых губ...

Абудзіць
Наша змова
Жаданняў райскі сад.
Няхай пра ўсё
Без слоў
Раскажа
Твой пагляд...



Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА.

УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»

Юрый ГЛЕБІК



Юрыю Глебіку 28 гадоў. Скончыў факультэт журналістыкі сталічнага універсітэта. Працуе мулярам у гарадскім пасёлку Свіслач. Гумарэскі і мініяцюры друкаваў у «Гродненской правде», «Звяздзе», і свіслацкай раёнцы.

Як сцвярджае малады аўтар, яго абразкі, дасланыя ў «ЛіМ»,— «спроба асэнсавання нашай нялёгкай і стракатай рэчаіснасці. Тэмы для іх падказаны самім жыццём. Мы яшчэ баімся прызнавацца сабе, якія мы ёсць на самай справе. Новы чалавек будзе нараджацца тады, калі мы будзем выкрываць і асуджаць усё, што не дае яму быць лепшым».

# АБРАЗКІ

●

Яны стаялі побач у вялікай чарзе за каўбасой. Пажылы мужчына і яшчэ маладжавая жанчына. Былі яны знаёмыя і дзеля таго, каб бавіць час, вялі нетаропкую гаворку.

— Гаворыць, што будынак райкома партыі аддадуць пад паліклініку, — з радасна-хвалюючай ноткай у голасе гаварыў мужчына. — Будынак, дзе знаходзіцца яна цяпер, такі, што ў любую хвіліну можа разваліцца. А ў будынку райкома можна размясціць мо пяць такіх паліклінік.

— А я чула, што ў гэтым будынку будзе дзіцячая музычная школа, — падхапіла гаворку жанчына. — Вы самі бачыце, куды цяпер нашы дзеці ходзяць займацца музыкай. Толькі ў «Вожык» пра гэта і напісаць.

— Згодзен з табою, дачушка, усё нам патрэбна новае: і школа, і бальніца, і дзіцячы садок. І многа яшчэ чаго патрэбна. Многа гадоў не для людзей будавалі, а для прэстыжу чыноўнікаў. Паглядзі, якія раскошныя кабінеты ды дачы сабе паставілі. І ўсё за нашы з табой сродкі, ды за сродкі такіх людзей, як мы. Хай у гэтым будынку будзе тое, што больш нашым жыхарам патрэбна.

Простыя людзі на першы погляд. А разважаюць па-дзяржаўнаму.

●

Жыў рабочы чалавек. Працаваў добрасумленна. Але яму гаварылі: «Працуй яшчэ лепш—пашана і гонар будзе табе. Толькі ў працы ты адчуеш сапраўдную свабоду, станеш лепш жыць».

Ён працаваў яшчэ лепш. Яго хвалілі, ставілі ў прыклад другім. Але свабоды ён не адчуваў. Лепш жыць таксама не стаў.

Аднойчы чалавек атрымаў на рабоце цяжкую траўму. Доўга лячыўся, але ўсё роўна застаўся інвалідам. На працу больш не хадзіў. Стаў атрымліваць невялікую пенсію. Жыў яшчэ горш, але быў свабодным, бо ніхто яго ўжо не прымушаў больш і больш працаваць.

Ён цяпер нікому не быў патрэбны.

●

— Ты паглядзі, што робіц-

Кляну сябе і сам сабе клянуся,
Што як ні горка, трэба жыць
У Беларусі і для Беларусі.

## Серафім

*И вырвал грешный мой язык,*
*И празднословный, и лукавый.*
А. ПУШКИН.

Усё жыццё — адны памылкі,
Адны пралікі і грахі,
Зламаны крылы і закрылкі,
Язык засмяглы і сухі

Сурова ўрэшце пакараны
За слова кожнае і сказ
Што ў зман уводзілі старанна
Кагосьці мы, а болей — нас.

Мана развеялася дымам,
Дэмагагічны прывід знік.
Пара сустрэцца з Серафімам,
Каб вырваў грэшны ён язык,

Што славіў змрочныя хімеры,
Хоць сам я ў сэрцы боль насіў,
Дрыжаў ад страху і не верыў
У тое, што другім хлусіў,

Уводзіў небыліцы ў вушы
Пра радасць у ліхім жыцці,
А хто калечыў нашы душы,
Тых з ліхтарамі не знайсці.

Хаваюць іх двайныя дзверы,
Яны шукаюць новых слоў,
Хоць і няма ні кроплі веры,
Яны зацята хлусяць зноў.

О, шасцікрылы Серафім,
Дапамажы і нам, і ім.

## Агасфер

Пад поглядам злавесна-хіжым,
Далёкі ад зямных спакус,
Ледзь-ледзь ішоў пад цяжкім крыжам
На смерць засуджаны Ісус.

Ніколі ён не траціў веры
Ні пад крыжом, ні на крыжы,
І, глянуўшы на Агасфера,
Ледзь прашаптаў: «Дапамажы».

А той баяўся пакарання,—
Не падышоў, не дапамог,
За гэта ў вечнае выгнанне
Саслаў яго ўсявышні Бог.

Шумяць прылівы і адлівы,
Ідуць стагоддзі, і цяпер
Прадбачлівы і баязлівы
Усё блукае Агасфер.

## Мая Беларусь

*Скакала, смяялася, пела,*
*Гасцям засцілала абрус,*
*У вочы ўглядалася смела,*
*Усё, чым багатая — мела,*
*І раптам ад гора збялела*
*І ад жалобы ссівела*
*Мая Беларусь.*

## Невядомыя акцёры

Спектаклі на лагернай сцэне —
«Любоў Яравая», «Разлом»,
Наўрад хто як трэба ацэніць
Змаганне любові са злом.

Да ўзроўню трагедый падзеі
Натхнёна акцёры ўзнялі,
Калі Яравога з кандзея
Спектакль дайграць прывялі.

Ён грозны, пяшчотны і шчыры,
Варожы, а некаму свой.
На сцэну глядзяць канваіры,
Акцёраў пільнуе канвой.

І я ўсхвалявана на сцэне
У «Разломе» сыграў Гадуна,
А заўтра у першую змену
Пагоняць грузіць дацямна.

На крок пахіснуўся управа,
Ці ўлева хіснуся на крок,
Мяне па вышэйшаму праву
Паймае на мушку стралок.

Ён, пэўна, падзяку заслужыць,
А я, заціскаючы боль,
Пад воплескі лютае сцюжы
Закончу апошнюю роль.

Я, дзякаваць Богу, не збочыў,
Не здаўся ў галоднай журбе.
Ссівеў, і ад рання да ночы.
Іграю самога сябе.

Акцёры з паўночнае зоны
Са сцэны траплялі ў здзек...
Завея і сцюжа заслоны
За імі закрыла навек.

## Павадыры

Мы не ходзім,— нас вядуць
То налева, то направа,
І дарадчыкі гудуць:
«Разважаць не ваша справа».

Мы чырвоныя былі,
З гора сталі сінія,
І брыдзем, як і брылі,
Генеральнай лініяй.

Доўга нам яшчэ ісці
З цуглямі і з шорамі
І ў затурканым жыцці
Чырванець ад сораму.

Нас усіх павадыры
Водзяць і не каюцца,
І у масле, як сыры,
Кожны дзень купаюцца.

Ад Кармы да Калымы
Усе з маленства мучымся...
Распагодзіцца, і мы
Усё ж хадзіць навучымся.

---

ца вакол! Сапраўдная вайна ідзе ў краіне. Там людзей забіваюць, там бомбы ўзрываюць. За што? Чаго людзі не падзялілі паміж сабой? Жылі ж некалі ў міры і згодзе. А цяпер вось галадоўка надыходзіць. Што ж гэта будзе далей? Няўжо людзі будуць паміраць ад голаду? І гэта ў касмічны век! Давялі краіну да ручкі. Развялося процьма бюракратаў, а толку ад іх ніякага. Адна шкода. Толькі грошы на іх з кішэні ў простых людзей выцягваюць. Ці згодны ты са мною?

Субяседнік паглядзеў на мяне. Мабыць, хацеў пачуць нешта суцяшальнае і абнадзейваючае. Але я толькі ківаў галавою і маўчаў. Тады ён пачаў далей.

— Скажу табе па сакрэту. Мне ўсе гэтыя іхнія катаклізмы да аднаго месца. Дзякаваць Богу, навучаны ўжо. І кансервы ёсць, і мясца хапае, і сухарыкаў падсушыў. Хай брэшуцца камуністы з нефармаламі! Хай кусаюць адзін аднаго! Мне ўсё да лямпачкі. Ці чорт будзе камандаваць, ці поп. Ці камуністы, ці нефармалы. Яны прыходзяць і адыходзяць, а я застаюся. Ужо сорак гадоў тут. Мяне тут кожны сабака ведае. А колькі іх змянілася за гэтыя гады? Ходзяць чуткі, што збіраюцца скарачаць такіх, як я. А за што? Я ніколі нікому нічога кепскага не зрабіў! Сяджу і выконваю тое, што загадаюць. Дзе шукаць праўды?

Субяседнік зноў запытальна паглядзеў на мяне.

●

Перад маладым следчым сядзеў нейкі спалоханы хлопец і вельмі блытана адказваў на пытанні. Ён праходзіў па справе аб дробным крадзяжы. Гэта была першая крымінальная справа, якую даручылі весці нядаўняму выпускніку.

Напярэдадні следчы дапытваў яшэ двух хлопцаў, якія падазраваліся ў злачынстве. Тыя прыходзілі са сваімі бацькамі — вельмі паважанымі ў горадзе людзьмі. Бацькі расказвалі аб тым, якія ў іх добрыя і паслухмяныя чады, што на злачынства яны не здольныя, што гэта нейкая недарэчная памылка. Потым бацькі паабяцалі дапамагчы ўладкаваць жыццёвыя справы маладога следчага. Ранкам заходзіў начальнік маладога следчага і раіў хутчэй закрываць справу, але так, каб паважаныя людзі не былі пакрыўджаны.

Маладому следчаму таксама хацелася як мага хутчэй і паспяхова закончыць сваю першую ў жыцці справу. Яму таксама вельмі хацелася ўладкаваць свае асабістыя справы. Таму, скарыстаўшы невялікую частку сваіх прафесійных ведаў, зрабіўшы падазронаму некалькі «пастак», ён канчаткова заблытаў хлопца...

Праз дзень справу аддалі ў суд. Хлопца асудзілі, а маладога следчага адзначылі на чарговай «планёрцы».

Хутка ён атрымаў кватэру і купіў усю абстаноўку.

●

У магазіне прадавалі жаночыя боты. Па талонах. Самыя танныя боты каштавалі 70 рублёў.

У адной жанчыны быў талон на боты, але толькі за 17 рублёў. І яшчэ ў жанчыны былі старыя паношаныя боты, якія даўно адслужылі свой век. Купіць боты за 70 рублёў па талону на 17 рублёў жанчына не магла. Але яна таксама не магла прахадзіць яшчэ адну зіму ў старых парваных ботах.

Жанчына пайшла ў магазін, прымерала сабе боты (добра, што хоць гэта працэдура ў нас не па талонах). Потым яна падышла да касы, паклала свой талон, 70 рублёў і пайшла з магазіна.

Прадаўцы спачатку толькі раты паадкрывалі і, здавалася, не дыхалі. Але праз хвіліну ачунялі і загаласілі:

— Караул! Абакралі! Міліцыя! Пад суд! У турму!

Пакуль званілі, пакуль прыехала міліцыя, пакуль разбіраліся, што да чаго,— жанчына была ўжо ў зале, дзе засядалі народныя дэпутаты.

— Судзіце мяне! Пасадзіце ў турму, альбо расстраляйце. Але ў мяне другога выйсця не заставалася, — звярнулася жанчына да дэпутатаў.

Ніхто жанчыну не судзіў. І ботаў ніхто не адабраў.

●

Тыран сядзеў у сваім склепападобным кабінеце і знешне быў спакойны. За халоднымі сценамі яго палаца стаяў вялізны натоўп людзей, якія патрабавалі Тырана на плошчу, каб трымаць адказ перад народам. У кабінет даносіліся заклікі аб расправе над Тыранам. Аб гэтым дакладвалі і слугі. Яны прасілі выйсці да людзей і пагаварыць з імі.

Тыран ніколі не гаварыў з людзьмі. Ён толькі ўмеў загадваць і караць, калі загады не выконваліся. Ісці ў натоўп ён лічыў абразай для сябе, а адправіць войска, каб разагнаць людзей, таксама не рашаўся: не той час цяпер, і ўсё магло павярнуцца супроць яго.

— Яны хутка самі разыдуцца. Пакрычаць і разыдуцца. Ці ж вы не бачыце, што яны хочуць напалохаць нас? Гэта самы звычайны жарт,— спрабаваў супакоіць і сябе і сваіх слугаў Тыран.

На трэці дзень народ не вытрымаў. Людзі ўварваліся ў палац і забілі Тырана.

Тыран так і не паспеў зразумець, што народ жартаваць не ўмее, калі над ім здзекуюцца.

●

Газетная заметка паведамляла аб прайшоўшым конкурсе прыгажосці. Апісваліся прызы і ўзнагароды, якія атрымалі самыя прыгожыя дзяўчаты. Палавіна матэрыялу была прысвечана пераможцы конкурсу. Расказвалася аб захапленнях дзяўчыны, аб яе бацьках. Для самых цікавых паведамілі памеры яе бёдраў, таліі, грудзей.

Аб памерах душы ў заметцы не было сказана нічога.

●

Неяк паскардзіўся мне адзін калгаснік:

— Ты пабач, што робіцца! Дзе ж гэта бачна, каб за кілаграм мяса на базары дзве «чырвоненькіх» аддавалі. Гэта ж колькі грошай патрэбна зарабляць, каб пракарміцца? Дый у магазінах, гавораць, мала што танней будзе! Вось ужо і цэны закупачныя больш як у два разы паднялі. Як яны там, у горадзе, жыць будуць? Не разумею.

Дзівак-чалавек! Для яго ж лепш зрабілі. Хоць цяпер не будзе задарма аддаваць свайго бычка ці парсючка, гадуючы якіх не дасыпаў і жылы выцягваў. Для яго лепш, а ён як бы не хоча гэтага.

Вялікі чалавек! Колькі гадоў яго абманвалі! Колькі гадоў ён за працу сваю цяжкую амаль нічога не атрымліваў! З яго смяяліся. І пацяшаліся з яго долі тыя ж самыя гарадскія, купляючы ў магазінах дзяшовае мяса і дзяшовую каўбасу.

А цяпер ён іх шкадуе.

●

Адзін у гадах, са стомленым хваравітым тварам, з вялікімі пачарнелымі ад цяжкай працы рукамі.

Другі ўкормлены, з нахабным тварам і чыстымі белымі ручкамі.

Першы ў пацёртым пінжачку і цеснаватых штоніках.

Другі з шыкам і фанабэрыста апрануты ў замежныя «трапкі».

Пажылы ўсё жыццё працуе ў бруднай закуранай майстэрні і атрымлівае за месяц столькі, што ледзь хапае на жыццё.

Малады нідзе не працуе. Жыве за кошт «надежных связей» і магчымасці рэалізаваць гэтыя «связи» праз базар. За дзень ён атрымлівае больш, чым пажылы за месяц.

Абодва яны сядзяць на прыёме да ўрача, скарыстоўваючы правы на бясплатнае медыцынскае абслугоўванне.

●

Па засмечанай вясковай вуліцы крочаць два падлеткі. У вялікіх самаробных кашах нясуць маслякі.

— А ці ведаеце, хлопцы, што збіраць грыбы нельга?

— Усе збіраюць і мы збіраем.

— А на праверку носіце?

— Не. Гэта трэба аж у горад везці. Адзін раз тата вазіў. Палавіну дня прабыў там, але так і не праверыў. Спецыяліста на месцы не аказалася. Але іншыя сказалі, што можна есці. Толькі некалькі разоў адвар зліць.

— А што з грыбамі рабіць будзеце?

— Частку з'ядзім, а астаттатняе мамка ў слоікі пакладзе. На зіму.

Гэтая размова адбывалася на Гомельшчыне. За тры дзесяткі кіламетраў ад вёскі Барталамееўка. Той самай...

●

Жыў Бедны Чалавек. Не тое, што зусім бедны, бо ежы і сабе і дзецям хапала, абутку, адзецца таксама было. Побач з ім жылі такія ж людзі. Сумленна хадзілі на працу, сумленна стаялі ў чэргах, сварыліся на падпітку і праклінаалі існуючыя парадкі.

Але яшчэ былі людзі, якіх на працу вазілі службовыя машыны, якія не стаялі ў чэргах, а выпіваючы, услаўлялі сваю ўладу. Вельмі хацеў Бедны Чалавек жыць так, як яны. Але для гэтага патрэбна было схаваць ад вачэй людскіх сваё Сумленне.

Вельмі не хацеў Бедны Чалавек гэтага рабіць. Але аднойчы ўсё ж вырашыў. Закапаў Сумленне сваё глыбока ў зямлю.

Хутка ён займеў службовую машыну, з'явіліся новыя сябры.

Цяпер Бедны Чалавек не стаяў у чэргах, не праклінаў існуючыя парадкі. Усё неабходнае яму прывозілі дамоў, а выпіўшы, ён разам з новымі сябрамі ўсхваляў сваю ўладу. Думаць аб тым, што стаялі ў чэргах, Беднаму Чалавеку не было калі.

Але ўсё часцей і часцей ён пачаў успамінаць пра сваё Сумленне. І настаў час, калі Бедны Чалавек вярнуў яго зноў да сябе. Тады ён зноў убачыў тых, з кім жыў раней, зноў адчуў сябе бедным. І зразумеў Бедны Чалавек, што ў беднай краіне немагчыма чалавеку з Сумленнем адчуваць сябе багатым. Нават калі глядзіш на ўсё праз матавае шкло службовага лімузіна.

**НОВЫЯ ВЫДАННІ**

# УСІМ, ХТО ЛЮБІЦЬ ТЭАТР

**«Тэатральная Беларусь» — так называецца новы часопіс, заснавальнікамі якога сталі Міністэрства культуры рэспублікі і Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі. Пра характар будучага выдання наш карэспандэнт папрасіў расказаць галоўнага рэдактара «Тэатральнай Беларусі», вядомага тэатральнага крытыка, доктара мастацтвазнаўства Анатоля САБАЛЕЎСКАГА.**

— Мушу ўдакладніць, — сказаў Анатоль Вікенцьевіч, — часопіс пад такой назвай, а яго даўно чакалі ў тэатральных колах, павінен быў выходзіць ужо ў сёлетнім, 1991 годзе. Многія, відаць, памятаюць, што на яго нават праводзілася падпіска, але па шэрагу арганізацыйных прычын справа затрымалася на цэлы год. Першы нумар з'явіцца ў пачатку 1992 года. Часопіс будзе выходзіць раз у два месяцы.

Можа ўзнікнуць пытанне: навошта, маўляў, «Тэатральная Беларусь», калі ёсць часопіс «Мастацтва Беларусі», калі пытанні тэатральнага жыцця асвятляюць «ЛіМ», іншыя рэспубліканскія выданні? Наконт гэтага мушу сказаць: пакуль што мы не ўдзяляем тэатру такой увагі, якой ён варты. Тэатр — мастацтва шматмернае. Гэта і драматургія як літаратурная аснова, і рэжысура, і сцэнаграфія, і акцёрскае выканаўчае майстэрства, і опернае мастацтва, і балет... Прафесійныя калектывы і самадзейныя... Тэатр, у той ці іншай ступені, хвалюе кожнага чалавека. У кожным чалавеку з самага нараджэння ёсць пэўнае месца для тэатра, яно, можна сказаць, генетычна ў ім закладзена. Прыгадайма, маленькія дзеці пачынаюць між сабой гуляць у дарослых, у тату з мамай, скажам. А гэта ж— ужо тэатр. А рэлігію возьмем? У ёй жа таксама ёсць элементы тэатральнага дзеяння. Ну, а мітынгі? У іх абавязкова прысутнічаюць тэатральнасць, відовішчнасць...

**— Вы хочаце сказаць, што тэатральнае выданне — гэта не толькі аператыўнае рэагаванне на новыя спектаклі, рэжысёрскія работы, а шырокае кола праблем, якія ў аднолькавай ступені цікавяць і спецыяліста, і кожнага, хто хоць аднойчы быў гледачом?**

— Але, гэта так. Не будзем забываць, што тэатр сёння перажывае далёка не лепшы перыяд. Паўпустыя залы, недахоп матэрыяльных сродкаў, нязвычныя камерцыйныя законы, што прымушаюць асобных рэжысёраў ісці працейшым шляхам, патураючы па сутнасці гледачу з нізкімі эстэтычнымі густамі. Пра ўсё гэта таксама трэба пісаць. Востра, неабыякава. Нарэшце, нельга замыкацца толькі ў рамках свайго, нацыянальнага тэатра. Па меры магчымасці, найперш, вядома, славянскімі. Нарэшце, вернемся ў дзень учарашні. Праўда, не на шкоду асвятлення сучаснага тэатральнага працэсу. Асвятленню яго на старонках «Тэатральнай Беларусі» будзе ўдзяляцца асаблівая шмат месца. Але ж неабходна пазбаўляцца і так званых «белых плям» на карце тэатральнага жыцця рэспублікі. Іх шмат звязана з даваенным часам, з гадамі сталінізму. Так, толькі зусім нядаўна шырокая грамадскасць пачула імя Францішка Аляхновіча. А гэта ж цікавейшы драматург і даследчык, гісторык тэатра.

**— Значыць, будзеце друкаваць і драматургічныя творы? Таго ж Аляхновіча, скажам, не чакаючы, пакуль за выпуск яго мастацкай спадчыны возьмецца якое-небудзь з нашых выдавецтваў...**

— Мяркуем, што ў кожным нумары будуць публікавацца п'есы. Калі аднаактоўкі, то і дзве-тры. Ці сучасных аўтараў, ці нешта з творчай спадчыны, з гісторыі літаратуры. Рабіць гэта неабходна і па той прычыне, што нашы драматургі ў параўнанні з паэтамі, празаікамі да нядаўняга часу знаходзіліся ў куды горшым становішчы. Ім не было дзе друкавацца. Час ад часу з'яўляліся п'есы толькі ў часопісах «Полымя» ды «Маладосць». Наогул, у нашым часопісе знойдзецца месца самым розным жанрам. Творчым партрэтам драматургаў, акцёраў, рэжысёраў, аглядным і праблемным артыкулам, рэцэнзіям, інтэрв'ю. Выступяць і самі дзеячы тэатра, пісьменнікі...

**— А як наконт аператыўнай інфармацыі?**

— Будзем даваць інфармацыю пра кожны новы спектакль прафесійных калектываў. Назавём аўтара п'есы, прозвішчы рэжысёра, мастака, усіх выканаўцаў. Такія публікацыі адначасова стануць і свайго роду летапісам тэатральнага жыцця, бо праграмкі звычайна губляюцца ды і выдаюцца яны цяпер несвоечасова. Побач з гэтымі звесткамі будуць і асобныя сцэны са спектакляў.

**— Дарэчы, пра ілюстрацыі...**

— Часопіс мяркуем выдаваць у дзвюх фарбах, вокладкі ў чатырох, так што для ілюстрацый месца знойдзецца.

**— Застаецца пажадаць вам, Анатоль Вікенцьевіч, поспехаў!**

— На заканчэнне хачу сказаць, што на старонках часопіса могуць сутыкнуцца розныя погляды. Мы за плюралізм. У адным пазіцыя «Тэатральнай Беларусі» застанецца нязменнай. З першага нумара мы будзем трымаць курс на нацыянальнае Адраджэнне, на кансалідацыю творчых сіл, якім блізкі працэс, што адбываецца сёння ў рэспубліцы, хто хоча жыць у суверэннай беларускай дзяржаве. І апошняе. У каталогу названы завышаны кошт аднаго нумара. У Міністэрстве культуры, Саюзе тэатральных дзеячаў знайшлі сродкі, каб падпісную плату значна зменшыць. Кошт аднаго нумара — 70 капеек, на год — усяго 4 рублі 20 капеек. Пры цяперашняй інфляцыі гэта, канечне, танна.

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ.**



## УДЗЯЧНАЯ ПАМЯЦЬ?

Летась Ігар Голубеў скончыў аддзяленне скульптуры Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Ягоная дыпломная работа — аднафігурная кампазіцыя «Язэп Драздовіч» — атрымала высокую адзнаку Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі, было рэкамендавана адліць работу ў матэрыяле. Паколькі для гэтай справы патрэбны грошы, якіх інстытут не мае, рэктар БДТМІ В. Шаранговіч звярнуўся да кіраўніцтва Беларускага фонду культуры з просьбай аб матэрыяльнай дапамозе, каб потым перадаць адлітую ў бронзе скульптуру школьнаму музею вёскі Германовічы Віцебскай вобласці.

Пасля абароны дыплома скульптару Ігару Голубеву паціснулі руку і сказалі: «Едзь уладкоўвацца на працу. Усё, што трэба, зробім». Але прайшло больш за год, а справа так і не зварушылася. Ужо двойчы скульптару даводзілася рэстаўраваць двухметровую пластылінавую мадэль, а фактычна — рабіць яе нанова. Адзінае, чаго хоча Ігар Голубеў, гэта каб ягоны твор дайшоў да гледачоў. Ён нават на ганарар не прэтэндуе, хоць у маладога скульптара матэрыяльных праблем хапае.

Дык няўжо ўшанаванне памяці Язэпа Драздовіча — гэта справа выключна для энтузіястаў? Няўжо ў дзяржавы (?!) не знойдзецца грошай на помнік чалавеку, які варты нашай удзячнай памяці?

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

# «Няма гетмана Агінскага...»

**По прапанове Міністэрства культуры БССР і са згоды кіраўніцтва Слоніма і раёна рашэннем Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў у снежні 1989 года быў адкрыты ў горадзе Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр.**

Што і казаць, падзея не толькі ў культурным жыцці нашага старажытнага Слоніма, але і ўсёй рэспублікі. У Беларусі ёсць нямала раённых цэнтраў і з большай за Слонім колькасцю насельніцтва, але ж ніводны прафесійнага тэатра не мае. А тут! Здаецца, ухапіцца б за такую з'яву, усебакова падтрымаць яе, даць магчымасць маладому і кволаму творчаму арганізму акрыяць...

Не, Міністэрства культуры і ўпраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкома пэўныя захады робяць ды намаганні прыкладаюць. Накіроўваюць у Слонім маладых спецыялістаў, забяспечваюць матэрыяльнымі і грашовымі сродкамі. Але да ўсяго патрабуецца яшчэ сякое-такое жытло, каб калектыву не туляцца па чужых кутах...

Як вядома, у Слоніме прафесійных рэжысёраў, акцёраў, мастакоў-сцэнографаў ды іншых прадстаўнікоў рэдкіх тэатральных прафесій не знойдзеш. Іх трэба запрашаць з іншых гарадоў, значна большых за Слонім. І калі такога спецыяліста ўдаецца ўгаварыць пераехаць у Слонім, то найпершая ўмова — забеспячэнне жыллём.

На жаль, на сённяшні дзень, хоць тэатр існуе ўжо больш як паўтара года, яму з мэтай забеспячэння і замацавання кадраў спецыялістаў яшчэ ніводнай кватэры не выдзелена.

Летась у тэатр запрошаны шэсць выпускнікоў мінскіх творчых навучальных устаноў і тры вопытныя спецыялісты. Значная частка з іх да гэтага часу не мае мясцовай прапіскі, а што гэта азначае, пры цяперашняй талоннай сістэме? А калі ёсць сям'я? Паглядзеўшы на такое стаўленне да тэатра, некаторыя ўжо звольніліся. Дрэнны настрой і ў астатніх.

Запрошаны шэсць выпускнікоў інстытутаў і сёлета, але дзе ж іх пасяліць?

Хочацца, каб наш нацыянальны малады тэатр існаваў, тым больш, што многім жыхарам Слонімшчыны і іншых рэгіёнаў Беларусі надоўга запомняцца спектаклі «Халімон камандуе парадам» маладога беларускага драматурга У. Саўліча, «Не забіцца і паспець на сябе хамут надзець» паводле Л. Родзевіча, «Прынцэса і кароль» па п'есе У. Ягоўдзіка. Зараз тэатр рыхтуе пастаноўкі па драмах Я. Купалы «Тутэйшыя» і Л. Родзевіча «Пакрыўджаныя», а для дзяцей — спектакль-казку Кандрата Лейкі «Снатворны мак» і іншыя. Трэба шанаваць такіх людзей, як галоўны рэжысёр тэатра Мікалай Варвашэвіч, маладых акцёраў і рэжысёраў, што працуюць з ім побач. Яны стараюцца рабіць усё, каб адрадзіць нацыянальны беларускі тэатр. А ў ім сёння гучаць беларуская мова, песні, музыка...

Неяк адзін з жыхароў Слоніма пажартаваў: «Няма на нашых адказных асоб-бюракратаў гетмана Міхала Агінскага. Жыллём і будынкам за адзін год тэатр быў бы забяспечаны!..» Застаецца з ім пагадзіцца?..

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

г. Слонім.

**З ПОШТЫ АДДЗЕЛА МУЗЫКІ**

# ГЭТА—ЛЕПШАЯ...

Паглядзеў па БТ канцэрт беларускай песні. Гэта была новая праграма Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, якую дапамагло правесці Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Салісты аркестра В. Шчарыца, М. Скорыкаў, А. Саўленайтэ, В. Касенка, Ю. Скараход, У. Кудрын выканалі творы І. Лучанка, В. Сярых, А. Молчана, Д. Яўтуховіча, У. Будніка. У канцэрце таксама выступіла госця з Польшчы (Беласточчыны) Ала Дубец. Даўнія нашыя песні «Пярсцёнак» Л. Захлеўнага і «Чараўніца» Ю. Семянякі гучалі чыста, ярка, без моўных памылак (якіх шмат у нашых спевакоў...).

А закончыўся канцэрт песняй «Талака» (І. Палівода—Л. Пранчак).

Усё было б выдатна, каб не памылкі і недакладнасці ў цітрах—па віне тэлебачання.

Канцэрт гэты, выправіўшы тыя памылкі, варта паўтарыць па БТ і перадаць па рэспубліканскім радыё. Лічу, гэта лепшая беларуская праграма, паказаная Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі, якім кіруе заслужаны дзеяч мастацтваў БССР М. Фінберг.

**С. ЯКІМОВІЧ,**
**студэнт МПІ імя М. Горкага.**

**ПЕРАКЛАДЫ**

Західжан Абідаў жыве ў Ташкенце. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, заслужаны работнік культуры Узбекскай ССР.

Ён аўтар многіх паэтычных зборнікаў. Перакладаў таксама на ўзбекскую мову творы Лермантава, Шаўчэнкі, Купалы, Бажана, Гамзатава, Міхалкова, Ш. Пецёфі і іншых паэтаў.

**Західжан АБІДАЎ**

## Здзіўленне

З франтавога блакнота

Змоўк гнеў гармат на ратным полі,
І чэргі чуюцца радзей.
На полі смерці, полі болю —
Астанкі танкаў і людзей.

І поле бою пацішэла.
Над намі страшна ноч вісіць.
Часць наша курчыцца ў траншэях,
Хто трызніць, хто у сне крычыць.

У хмарах месяца не ўбачыць,
Крывавы бок мільгнуў і знік.
Як слёзы, кроплі зор дрыжачых
У жальбе коцяцца наніз.

Пражэктар неба разразае.
Сясцёр ледзь чутны галасы.
Гарыць ракета, штось шукае,
След ад крывавай паласы.

Над намі смерць, як воран чорны.
Я ад яе не пабягу.
Хоць я, здаецца, непакорны,
Ад сну ўтрымацца не магу.

І дзіва! У соннай крутаверці,
Там, дзе трызненне паласне,
Прайшла ты праз заслоны смерці,
Рашуча ёй сказала: «Не!»

Я зноўку бачу поле бою.
Дзе ты, любімая мая!
Гарыць раненне кулявое,
Ды паміраць не смею я.

Твая любоў мяне трымае.
У бой святы яна вяла.
Хто любіць, той не памірае:
Ты выжыць мне дапамагла.

## Чорны хлеб

Заўсёды па ўрачыстых датах
(Мінула многа летаў, зім),
Як роўны з белым хлебам свята
Хлеб чорны на стале маім.

Хлеб чорны грубага памолу,
Вайною чэргі ён збіраў.
Той самы хлеб, які у голад
Людзей карміў і саграваў.

І быў той хлеб найдаражэйшы,
Жыць без яго ніхто не мог.
З ім адступаў я ў сорак першым
І ў сорак пятым перамог.

Даўно я зняў шынель салдата.
Вайна убачыцца у сне.
Ды чорны хлеб, як тая святасць,
Сумленне, чэсць ён для мяне.

## Аб сябрах

Ёсць сябры —
яны ў дарозе свецяць,
Быццам сонца шчодрае вясной.
І ў радасці, і ў горы нас прывецяць,
І ў цяжкі час—яны за нас сцяной.

Ёсць сябры...
З усмешкай сустракаюць,
Ды не ўбачыць цеплыні вачэй.
Трапіш у бяду — не заўважаюць:
Моў, самім жывецца не лягчэй.

Светлым днём
яны ў застоллі з намі,
А ў бядзе, у горы — не відны.
Гучна называюцца сябрамі,
Ды парой, як ворагі, яны.

## Шчаслівы

І не поўняй, рассеяна лікам імгла,
Тваім лікам. Адбіўся ў эфіры нябесным.
Я падумаў, ты косы свае распляла:
Увесь свет перапоўнены водарам веснім.

Закрываеш ты твар—і нябёсы тады
Засцілае суцэльная хмара густая.
Ледзь самкнеш вочы-зоры, нібы
ад бяды,
І нябесныя зоркі свяціць перастануць.

Як адкідваеш пасмачку з лобу валос,
Сонца яркім святлом адзавецца на гэта,
Ад цябе ён залежыць, зямлі усёй лёс,
А магчыма, адно толькі — шчасце паэта.

Расцвітае, пышнее ружовы твой сад,
Ля яго я хаджу, паглядаю нясмела.
Падары мне ты толькі адзіны пагляд,
Пакуль сэрца ад гора датла не згарэла.

Усміхніся, каб свет азарыўся вясной...
Ты—каханне маё і пакута, і доля.
Нібы птах, трапячуся я ў пастцы тваёй,
Твой шчаслівы палон. І не трэба мне
волі.

Пераклаў Юрась СВІРКА.

ЧОРНАЯ БЫЛЬ

# КРЫК СПАКУТАВАНЫХ ДУШ

Неяк на гарышчы, сярод сваіх старых школьных сшыткаў, я выпадкова ўгледзеў зжоўклую паперчыну, на якой рукой шасцікласніка быў выведзены спіс працадзён: капіў салому, цягаў копы на лузе, падграбаў за валакушай, накладваў сена на валакушу... І так вось амаль кожны дзень усё лета. Пах таго сена з далёкага маленства дагэтуль вярэдзіць душу, красу надпрыпяцкіх лугоў да скону захавала ўчэпістая дзіцячая памяць. А якія стагі ставілі там нашы дзяды і бацькі! Сёння ім ужо многім паставілі помнікі, а залїўныя надпрыпяцкія лугі разбойна ператвораны ў вечную мёртвую зону.

Ледзь не чвэрць веку мінула з таго часу, як родны кут выправіў мяне ў «людзі», і чырванабокі «Ікарус» штогод імчыць мяне ў любы сэрцу палескі край. І менавіта ў ліпнёвую пару, у самы разгар сенажаці душа мая рвецца дахаты, не стае ёй водарных сенакосных абшараў. Толькі ж не пра духмяны водар сена будзе мой сказ. Сёлетні прыезд у родную вёску асабліва пакутны. Яна пакутліва дажывае свае апошнія месяцы і пакрысе спраўляе хаўтуры сваім апошнім радыяцыйным блакаднікам. Ці чулі вы пра хойніцкую вёску Губарэвічы? Гэта родная сястра Бабчына, што з болем апета Міколам Мятліцкім у ягоным «Палескім смутку». Яе напаткаў жахотны чарнобыльскі лёс. Сціплая, гаротная, руплівая, як і многія яе суседкі, яна спакваля слёзна развітваецца са сваімі насельнікамі, якіх перасяленчая навала раскідвае па ўсёй Беларусі. Нясвіж, Дзятлава, Маладзечна, Смаргонь, Орша, Талачын, Жлобін, Крупкі — вось далёка няпоўны спіс адрасоў маіх былых аднавяскоўцаў. Ды хіба толькі іх? Пякельны боль агортвае душу за далейшае жыццё старых дзядоў і бабуль, змушаных дажываць свой век сярод чужых людзей і ў нязвыклых келлях вялікага горада. Што да маладзейшых, дык ім прасцей. Яны змалку выхоўваліся жыць у агульных стайнях. Ды каб хоць яны размяркоўваліся па-божаму! Пра якое толькі бяспраўе і неўтаймаванае безуладдзе не наслухаешся ад адчайных людзей, якім выпала ў рэшце рэшт чарга на перасяленне ў чыстую зону. Мужу маёй былой аднакласніцы (настаўніку па прафесіі) прапанавалі мясцовыя кіраўнікі парабіць лета на камбайне. Калі ён адмовіўся, яго ў пакаранне выкрэслілі са спісу перасяленцаў у Мінск. А ў іх дзеці школьнага ўзросту. Прыгожа пішуць пра адпачынак нашых дзяцей за мяжой. Але ў лік шчасліўцаў трапляюць вельмі нямногія. Калі пры размеркаванні месцаў перасялення сваяцтва і кумаўство займаюць пачэснае месца, то пры накіраванні дзяцей у здраўніцы і санаторыі яго вялікасць Блат таксама лепшы сябра і дарадца. Не апісаць той беззаконнасці, што вытвараюць чыноўнікі, у руках якіх поўная ўлада. Можна пагадзіцца, што пакрыўджаныя ў чымсьці перабольшваюць, аднак не можа простая чалавечая фантазія прыдумаць тое, што бачыш на ўласныя вочы і чуеш на ўласныя вушы. І пачутае мною, пра што скажу пазней, не проста выдумкі страціўшых веру ў справядлівасць людзей. Гэта яскравае сведчанне стаўлення не толькі да перасяленцаў, гэта адносіны да чалавека ўвогуле.

Раней у аўтобусах хойніцкага і брагінскага кірункаў летнім часам ледзь не паўсалона ехала дзяцей, нават немаўлят — у госці да дзеда і бабы, а ў адваротнім кірунку — маладыя хлопцы і дзяўчаты — паступаць на вучобу ў сталічныя інстытуты. Цяпер большасць пасажыраў — змардаваныя маткі, што едуць альбо ездзілі адведаць сваіх дзяцей. Паспрабуйце за выхадныя дні з'ездзіць з Брагіна ў Сасновы Бор, што пад Радашковічамі? Дзеці сумуюць без дамоўкі, просяцца дахаты. Кажуць: «Мамка, забяры нас дахаты. Калі не забярэш, дык пазалазім вунь на тую высокую гару і пападаем уніз», — з горкай усмешкай расказвае мне жанчына з Брагіна. А ўбачыўшы, што нешта занатоўваю, яна зусім пасмялела: «А што хаваць праўду? Колькі там нашых дзяцей улетку патапілася, загінула?! Нагляд, вядома, ёсць, але дзеці тыя зусім адбіваюцца ад рук. Тут дома, бывае, не ўгледзіш, а то... Хай бы скарэй тыя кватэры дзе давалі! Брагінцам жа Мінск выдзеліў 600 кватэр, і Мазыр 92. А мясцовыя нашы начальнікі ўсё круцяць-муцяць, усімі праўдамі і няпраўдамі сцвярджаючы, што пры такой дозе забруджанасці ў Брагіне жыць можна. Ці ім хто загад такі даў, ці яны самі самаўпраўствам займаюцца — не ведаем. Куды мы ні хадзілі, каму ні пісалі, нас выганяюць і слухаць не хочуць. Кажуць: «Вы нам абрыдлі ўжо», — мая размоўца роспачна махнула рукой. — Столькі грошай бязладу марнуюць. Што, яны не ведалі маштабы аварыі? Навошта было распачынаць будаўніцтва таго штучнага возера недалёка ад Брагіна? Шчэ й цяпер не скончылі. Хто ў ім купацца будзе? Мільёны ўгробілі, а нам жыць няма дзе».

Пачуўшы маю беларускую гаворку, да нас далучылася настаўніца пачатковых класаў з Хойнік. Яе перасяліў той жахлівы красавік з прыпяцкай вёскі Аравічы. «У адным хатнім халаце», — як засведчыла яна пазней. Перасялілі і забыліся. Кватэру сяк-так далі, праўда, трохпакаёвую. Але ж у яе бацькі-інваліды, сама з мужам, двое дарослых сыноў. «Ды клопат з той кватэрай! Мы там такі маёнтак пакінулі, што ніякі катэдж не дакажа. Будавалі не адзін год. Шкада толькі, што ўсё здароўе і сродкі ў маладыя гады на яго паклалі. Там жылі побач са смерцю, тут ужо шосты год глытаем радыяцыю, і ніхто нас не лічыць за пацярпеўшых. Ды што там мы! Суседка наша, медсястра з Уласоў (вёска за 8 кіламетраў ад Чарнобыля), паехала ў Гомель дабівацца даведкі, што яна прымала ўдзел у абследаванні жыхароў забруджанай зоны. Дык нейкі чыноўнік цынічна кінуў ёй: «Які ты ліквідатар? Ты яшчэ пажыць спадзяешся?» А мінскія ўрачы ля Дронек ці Бабчына рукі памыюць і ўжо патрабуюць даведкі ліквідатараў». Перамагаючы боль і слёзы, яна распавядала мне пра першае чарнобыльскае лета, калі яны, настаўніцы, кінуўшы немаведама дзе сваіх уласных дзяцей, бадзяліся ледзь не па ўсёй Беларусі, замяняючы чужым малечам у самым прамым сэнсе матак і бацькоў. «А цяпер во еду да родзічаў пад Мінск, каб трохі развеяцца і памяняць асяродак, бо здаюць нервы».

Слухаючы гэтую жанчыну, я падумаў: «Вось каму трэба даваць пуцёўкі ў лепшыя чарнаморскія і замежныя пансіянаты, людзям, якія шосты год нясуць на сваіх плячах гора і смутак палескай зямлі». Не па сваёй волі кідалі яны свае абжытыя мясціны і ехалі ў свет, дзе іх прымалі без асаблівай радасці, бо кватэрная праблема існуе ў нас усюды. Не адну сям'ю перасяленцаў з вёскі Савічы Брагінскага раёна прытуліла чэрвеньская зямля. Так, зямля сардэчна прыняла людзей, а вось у мясцовых улад, напрыклад, у Мікалая Васільевіча Марудэнкі, дырэктара саўгаса «Краснадарскі», не заўсёды стае спачування і спагады да сваіх новых жыхароў. Пераход на новыя метады гаспадарання ён, відаць, успрыняў на свой капыл і дагэтуль блытае паняцці «кіраваць» і «правіць». Калі адзін з перасяленцаў адважыўся дазнацца, чаму яму не плацяць 60 рублёў кампенсацыі, то гэтым наклікаў на сябе «царскі» гнеў. Адміністрацыі саўгаса давялося ўрэшце выплаціць грошы, але... зрабілі яны гэта за кошт 50-працэнтнай надбаўкі да заробку. Затое, калі малады абаронца справядлівасці пайшоў у сельсавет прасіць даведку на набыццё без чаргі мэблі, яму беспардонна адказалі, што даведкі кончыліся і «нас не хвалюе, на чым вы спіцё». Я ўжо на кажу пра паляпшэнне жыллёвых умоў. Дзве сям'і жывуць у адной кватэры, а дырэктар так вырашыў жыллёвае пытанне: «Вам грошай кучу далі — вось і будуйце самі». Мала таго! Неўтаймаванага шукальніка праўды ён перавёў са зваршчыкаў у наладчыкі на жывёлагадоўчую ферму, заробак яго склаў... 60 рублёў. Давялося хлопцу скардзіцца раённаму начальству, якое, на шчасце, аказалася на вышыні і не дало яго ў крыўду.

Людзі шкадуюць, што павыязджалі са сваіх наседжаных гнёздаў, бо не ўбачылі чалавечых да сябе адносін. Таму й не дзіва, што некаторыя цэлымі вёскамі вярнуліся назад і сёння жывуць там. «Што гэта за перасяленне, калі там, як і ў нас, плацяць «грабавыя»? — справядліва абураюцца яны. Як у вёсцы Карані Светлагорскага раёна, дзе збудавалі цэлы пасёлак для «чарнобыльцаў». І можаце ўявіць сабе становішча мацярок, якія з маленькімі дзеткамі змушаны перабірацца з вялікага пекла ў малое. Такая ж карціна атрымліваецца ў Жлобінскім раёне. Карэнныя жыхары здзіўляюцца мужнасці і цярплівасці перасяленцаў, бо пасёлак іхні размешчаны ледзь не за 3 кіламетры ад самой вёскі, да цэнтральнай сядзібы саўгаса кіламетраў 10. «Ні школы, ні дзіцячага садка ў нас няма. А калі, не дай Бог, дзіця захварэе, то хоць крыкам крычы,— дадала маладжавая жанчына, што прыехала з вёскі Стралічава Хойніцкага раёна. — Хаты там добрыя, на трэба Богу грашыць, але ж у скляпах вада стаіць. Паліць у печы няма чым. З сабой нічога не даюць браць з паліва, маўляў, не трэба нам ваша радыяцыя, у нас сваёй удосталь. Людзі абураюцца, а нас «суцяшаюць»: «Будзеце перабіраць, нічога зусім не атрымаеце». Дачка машыністкі з хойніцкай раённай газеты «Ленінскі сцяг» пераехала ў Талачын. Там ёй, майстру-сыраробу, выдзелілі катэдж, дык ёй жыцця не даюць — зайздросцяць. Што й казаць, цяперашні ўсеагульны дэфіцыт падгроб пад сябе не толькі рэчы, а і душы людзей.

Мае субяседнікі не называлі сваіх прозвішчаў. І не ад страху, што ім будуць помсціць. Хутчэй ад безнадзейнасці іх гаротнага становішча.

«Калі ваш артыкул дзе-небудзь надрукуюць, — сказала мне на развітанне хойніцкая настаўніца з выселенай вёскі Аравічы, — дык хай гэта будзе крык нашых спакутаваных душ».

**Мікола ЛЯШЧУН.**

г. п. Лагойск.



Лета 1986 года. Хойніцкі раён. Фота Ю. ІВАНОВА.

Сёння «ЛіМ» адкрывае новую рубрыку — «Духоўныя гутаркі», мяркуючы прысвяціць яе праблемам маральнасці, веры, пошукаў сэнсу жыцця. І гэта не «даніна модзе», не імкненне да «душпастырскага прапаведніцтва». Бадай, найбольшы, ці не галоўны наш дэфіцыт, які неяк замоўчваецца і недавымаўляецца, — гэта дэфіцыт веры і ўпэўненасці ў сваіх сілах. Такое ўражанне складваецца, калі чытаеш і пошту «ЛіМа». Палітычныя страсці спакваля адыходзяць на другі план, уступаючы месца пошукам па-чалавечы годнага і вольнага існавання ў вірлівым, драматычным, неспакойным грамадстве.

Палітычныя праблемы ў свеце з часам знаходзілі сваё вырашэнне. Толькі смага разумення сябе і свету, жаданне памірыцца з сабою і людзьмі ніколі цалкам не задавальняліся. Такая смага існуе і цяпер, прымушаючы нас адрываць свае погляды ад жорсткай рэчаіснасці і накіроўваць іх на Неба, да зор, да іншых сусветаў, дзе, як нам мроіцца, жывуць маленькія прынцы, і дзе ўсё, усё па-другому...

Філосафы гавораць аб тым, што набліжаецца час істотнай змены, пашырэння рамак чалавечай свядомасці. Зусім нядаўна ў мінскіх кнігарнях з'явілася кніга аўстралійскага медыка П. Каліноўскага «Пераход. Апошняя хвароба, смерць і пасля», у якой ёсць такія фразы: «Мы стаім на мяжы дзвюх эпох. Эпоха матэрыялізму сыходзіць у мінулае. На змену мёртваму матэрыялізму ідзе іншае, больш поўнае і светлае разуменне свету і лёсаў кожнага чалавека, адбываецца перагляд асноўных навуковых тэорый. Новыя веды абавязкова ахопяць увесь свет... Сэнс жыцця на зямлі будзе ўспрымацца па-іншаму, парадак жыцця пачне мяняцца. Людзі зробяцца больш адказнымі, з большай увагай паставяцца да іншых, і гэта зробіць наша існаванне чысцейшым і лепшым». Трэба меркаваць, прыгаданыя змены залежаць у першую чаргу ад уласнага духоўнага самаўдасканалення, працы над сабой. І тут не абысціся без сумоўя з сучаснікамі, якіх турбуюць такія ж праблемы.

Першы наш суразмоўнік — Уладзімір Якаўлевіч Канатуш, прапаведнік Мінскай царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў, чалавек пакручастага лёсу, у якім была і вайна, і ГУЛАГ, і пераследы «застойнага» перыяду. У жніўні споўнілася 50 гадоў яго служэння ў якасці прапаведніка. За гэты час ім прачытана сотні казанняў, напісана дзесяткі артыкулаў і некалькі кніг на тэмы хрысціянскай маралі, этыкі ўвогуле. Цяпер, праўда, ён рэдка (узрост) служыць у царкве, але яго меркаванне, яго слова валодае найбольшым аўтарытэтам сярод іншых прапаведнікаў і веруючых. Пытанні, больш свецкія, чым «біблейскія», — зусім не збянтэжылі У. Канатуша, ён з задавальненнем прыняў запрашэнне выступіць у «Духоўных гутарках».

**ДУХОЎНЫЯ ГУТАРКІ**

## Уладзімір КАНАТУШ:

# «ЧАЛАВЕК СТВОРАНЫ НЕ ДЛЯ ПАМІРАННЯ...»

## Беларускія баптысты: вера і мараль

**— Уладзімір Якаўлевіч, чытаючы лісты чытачоў, адчуваеш, што ці не найвастрэйшай турботай для многіх з'яўляюцца пошукі веры. Веры ў самым шырокім сэнсе слова. Паэтэса Л. Турбіна называе гэту турботу «смагай Бога»: у сабе, у бліжнім, у свеце. Гэтай смагай пакутуюць, бадай, мільёны савецкіх людзей, якія знячэўку пазбавіліся «ідэалаў» і апынуліся як бы на раздарожжы. Магчыма, з-за неспатоленасці смагі веры змучаныя і напаўгалодныя людзі і паводзяць сябе так азлоблена і агрэсіўна. Вера ў палітычныя лозунгі безнадзейна сыходзіць. Мы памятаем таксама нядаўняе масавае захапленне «тэлелекарствам», усходнімі культамі, якія сёння губляюць сваіх прыхільнікаў. А смага веры ці смага Бога застаецца па-ранейшаму неспатоленай. Што ж перашкаджае многім духоўна адзінокім суайчыннікам адчуць жыццёвую веру і ў чым, на вашу думку, не апірышчы!**

— Я глыбока ўдзячны вашаму штотыднёвіку за запрашэнне выступіць у «Гутарках». Гэта ці не першы сур'ёзны зварот свецкай газеты да прапаведніка Мінскай ЦЕХБ за ўсю яе гісторыю ад 1905 года. І паколькі з юнацтва належу да гэтай царквы і выхаваны ў хрысціянскай сям'і, буду адказваць з біблейскага пункту гледжання.

Так, сапраўды, нашы суайчыннікі адчулі сёння дэфіцыт веры, маральнасці, духоўных каштоўнасцяў. Але пры гэтым я б не сказаў, што «пошукамі Бога» затурбочаны мільёны людзей: большасць з іх не выходзіць за межы звыклага спажывальніцкага круга, працягвае жыць «язычніцкім», матэрыяльна-арыентаваным жыццём. Па выразу Бібліі, людзі «ганяюцца за пылам». А калі найперш хвалюе сацыяльная ўладкаванасць, то на «вечнае» ўжо не хапае ні часу, ні, галоўнае, — настраёвасці духа.

Гады два назад пачалося паломніцтва людзей у нашу царкву па вуліцы Альшэўскага, актыўнае наведванне вечароў пытанняў і адказаў. Але вельмі хутка «бум» мінуў, у чым мне бачыцца праяўленне існіннай прыроды такой цікавасці да рэлігіі — здабыць нейкія дакладныя прадпісанні, для засваення якіх не патрабуецца ніякіх унутраных намаганняў, істотнай змены сваіх адносін да жыцця. У тым і вышэйшы сэнс рэлігіі, што яна патрабуе натуральнага адмаўлення ад «індустрыі ўвесяленняў», пастаноўкі сябе па-над побытавымі акалічнасцямі. Апошнія ўвогуле ніколі не могуць быць ідэальнымі: у гэтым промысел Вышэйшага Розуму, каб выпрабаваць нашу ўласную волю і мужнасць.

Здаровая і паўнацэнная мараль, мараль, у якой вядучая роля адведзена любові, міласэрнасці, справядлівасці, павазе да асобы, — такая мараль, на маю думку, можа вырасці толькі на грунце жывой, свядомай веры ў Бога, у Ісуса Хрыста, які прынёс на зямлю вечную мараль і прапанаваў яе людзям. Але гэтыя ідэалы прымаюцца народамі пакутліва і марудна, часта — адкідваюцца, аб чым сведчыць прыклад нашай краіны, якую на працягу 70 гадоў усімі спосабамі пераконвалі ў тым, што не існуе іншага свету, акрамя бачнага. Савецкая таталітарная сістэма адмовіла чалавеку ў праве на асабістую бессмяротнасць. А сёння нават навука, не толькі багаслоўе, адкрываюць новыя факты на карысць па-за матэрыяльнай, альбо па-за вегетатыўнай прыроды чалавека, і якія нас адкрыцці чакаюць наперадзе—яшчэ загадка.

Так, грамадства цяпер перажывае крызіс. Ці ёсць выхад? Выхад, натуральна, ёсць, і ён указаны ў Бібліі: жыццё пачне мяняцца, калі ладзіць яго паводле біблейскіх запаведзяў. Усё можна паправіць і ўдасканаліць, але бяда ў тым, што людзі пакуль не шукаюць Бога па-сур'ёзнаму...

**— А як знайшлі яго вы?**

— Я нарадзіўся ў сялянскай сям'і, на Гомельшчыне. Бацькі былі веруючымі і падтрымлівалі ў хаце дух хрысціянскіх узаемаадносін, ці, кажучы па-руску, — «общения». Павінен сказаць, што вернікі-баптысты заўсёды імкнуліся да праўдзівага выканання запаветаў Божых, незалежна ад палітычных і сацыяльных варункаў. Можа, таму, за непадатлівасць, пэўную бескампраміснасць, нават духоўны супраціў уладам абшчыны баптыстаў жорстка праследаваліся. Святароў у 30-х гг. звычайна прыгаворвалі да расстрэлу, членаў царквы спрэс да 80-х гг. не бралі на адказныя пасады.

У 1941 годзе з-за верніцтва я змушаны быў пакінуць трэці курс педінстытута імя М. Горкага, бо склалася невыносная маральная абстаноўка. А марылася аб настаўніцтве... Потым—вайна, разбомблены і спалены Мінск. Менавіта ў тыя жахлівыя дні, на пачатку жніўня, я прыняў воднае хрышчэнне на Свіслачы, гэта блізу веласіпеднага завода... Не перапыняліся баптысцкія богаслужэнні і пры акупацыі. Немцы нас не праследавалі, хаця, каб не хапала ў іх іншых клопатаў — не вядома яшчэ што было б...

Вось пасля хрышчэння я і адчуў унутраную схільнасць да прапаведніцтва, з тых пор Ісус і яго слова — сэнс майго жыцця. Я люблю і шкадую людзей, шчыра цешуся, калі маё паслугоўванне прасвятляе людзей, робіць іх чысцейшымі і дабрэйшымі.

Сам Ісус быў найвялікшым прапаведнікам свету. Хрысціянскі гісторык Ф. Шаф пісаў аб ім: «Ісус з Назарэта без грошай і без войска перамог больш мільёнаў, чым Аляксандр Македонскі, Цэзар, Магамет і Напалеон; без навукі і навучанасці праліў больш святла на Боскае і чалавечае, чым усе вучоныя і філосафы разам узятыя; без школьнай красамоўнасці ён казаў словы жыцця так, як ніхто ні да, ні пасля яго не казаў...» Як жа не палюбіць такога настаўніка, як жа не стаць ягоным вучнем?!

**РЭМАРКА. Баптысты спавядаюць выключна Ісуса Хрыста і яго Евангелле, іншых культавых асоб ці дакументаў, у адрозненне ад праваслаўя або каталіцызму, у іх няма. Таму можна пачуць, што баптысцкая вера—ісціннае хрысціянства, пазбаўленае ўплываў чалавечай грахоўнасці. Паважаючы іншыя канфесіі, баптысты тым не менш называюць іх фармальным хрысціянствам, бо ў паўсядзённым жыцці тыя ж католікі або праваслаўныя далёкія ад выканання першасных запаветаў Божых. У нашай краіне, як лічаць баптысты, прымірэнне і салідарнасць з укладам грамадскага жыцця асабліва спрыяе адыходу ад першароднага хрысціянства.**

**— Наступнае пытанне можа здацца дастаткова «негазетным». Тым не менш, было б несправядліва, на мой погляд, расказваць толькі аб знешняй аздобе рэлігіі: абрадах, святах і г. д. Цікавіць таксама і ЎНУТРАНЫ ЗМЕСТ веры. Дык вось: як разумець выраз «з Госпадам я набываю жыццё вечнае», і дзе тая мяжа, якая падзяляе жыццё зямное і «жыццё вечнае»?**

— Відаць, гэтае пытанне павінна гучаць так: «Што такое жыццё вечнае з біблейскага пункту гледжання?» Біблія гаворыць аб вечнай пагібелі і вечным выратаванні. Яна ад пачатку сцвярджае, што чалавек мае дзве існасці: фізічную і духоўную. Фізічная памірае, духоўная жыве вечна. Жыццё чалавека са смерцю цела не заканчваецца, бо чалавек створаны не для памірання: ён створаны для жыцця паўнацэннага і бессмяротнага. Пасля смерці цела духоўная субстанцыя чалавека не знікае, як сцвярджаюць матэрыялісты, а накіроўваецца ў пэўнае месца. Гэта спавядаюць многія рэлігіі і філосафы свету.

Але ў адрозненне ад іх Біблія адкрывае вельмі важную заканамернасць: фізічна чалавек нараджаецца **адзін** раз і **адзін** раз памірае. Бог наканаваў чалавеку толькі адно жыццё на Зямлі, на працягу якога ён павінен паспець знайсці галоўны адказ, галоўную мэту і сэнс жыцця—знайсці Бога. Калі пагрэбаваў пошукамі, часовая смерць (цела) дапоўніцца смерцю вечнай—смерцю духа або душы чалавека, якая ў «тым» Свеце аддзяляецца ад Бога.



«Мы ў бяссмерце ідзём...»

Жыццё вечнае — гэта не толькі тая будучая бессмяротнасць, у якую мы, баптысты, верым, і не толькі жыццё духу пасля смерці цела. Гэта новае жыццё ўжо пры зямным існаванні. «Кто во Христе, тот новая тварь» (2 Кор. 5, 17). Гэта значыць, што нашае новае жыццё пачынае свой адлік ад моманту **другога** нараджэння — духоўнага нараджэння Звыш. Першы раз мы нараджаемся па плоці ад сваіх бацькоў, другое ж нараджэнне — ад Бога. Гэта момант нараджэння нашага духу, свяцільніка чалавечай Асобы. І толькі такое жыццё, пачаўшыся на зямлі, працягваецца на Небе. Вось чаму Царква Хрыстова ўжо на зямлі названа «Царствам Нябесным». Веруючыя ў яго — прадстаўнікі Царства Нябеснага на Зямлі.

Але сказана таксама: «Царствие Божие **внутри** вас есть» (Лук. 17, 21). Таму, адказваючы на пытанне аб мяжы паміж жыццём зямным і вечным, можна сказаць, што яна праходзіць праз сэрца чалавечае. Некаторыя лічаць, што яна праходзіць па краю магілы. Але ж яшчэ да смяротнай пасцелі можна існаваць у царстве цемры, як бы з зачыненымі вачыма, ганяючыся за сіюмінутным і далёкім ад духоўнага. Момант жывой веры і ёсць пачатак пераходу ў царства святла і вечнага жыцця.

**РЭМАРКА. Баптысты спавядаюць СВЯДОМАЕ хрышчэнне па Хрысце, і лічаць, што хрышчэнне без веры ў Ісуса не валодае выратавальным дзеяннем. Таму ў баптысцкіх цэрквах прытрымліваюцца хрышчэння дарослых людзей, ва ўзросце ад 18 гадоў. Мінская ЦЕХБ праводзіць хрышчэнні на Мінскім моры, зімой—у басейнах. Штогод прымае хрышчэнне каля 100—150 вернікаў. Само слова «баптысты», дарэчы, паходзіць ад грэчаскага** «baptidso», **што азначае «акунуць, пагрузіць, затапіць, апусціць у ваду». Менавіта гэтае слова выкарыстаў Ісус, калі тлумачыў, як рабіць хрышчэнне.**

**— За гэты год на старонках прэсы надрукавана шмат артыкулаў, у якіх прапагандуецца вучэнне аб «пераўвасабленні душ», магчымасці неаднаразова паўтарыць зямное існаванне. Хацелася б пачуць хрысціянскі каментарый на гэты конт.**

— Так, вучэнне аб «пераўвасабленні» прыхільнікі крышнаізму і «жывой этыкі» Рэрыхаў запазычылі з індуізму, будызму, ёгі і іншых язычніцкіх усходніх рэлігій і актыўна пераносяць яго на айчынную глебу, распаўсюджваючы сярод інтэлігенцыі, студэнтаў, моладзі. Я лічу, што гэтае вучэнне паслабляе чалавечы дух безадказнасцю за свае ўчынкі. Маўляў, калі ты не хочаш самаўдасканальвацца цяпер, не хвалюйся —у «чарговым» жыцці ёсць шанц выправіцца, змяніць дрэнную карму. Г. зн. дапускаецца інфантылізм.

Нельга не адзначыць і такі хіб, нават антыгуманнасць вучэння аб «пераўвасабленні», як размыў асобы, адмаўленне непаўторнасці індывідуальнасці. Цяпер я Іван, затым магу быць Ганнай, пасля—нейкім зверам і г. д. Гэта ж здзек над асобай! Біблія пэўна гаворыць, што «Все мы предстанем на суд Христов», і кожны чалавек будзе адказваць за ўласнае зямное жыццё. Думаю, усведамленне адказнасці за свае ўчынкі толькі ўмацоўвае свецкую мараль. Чалавечай асобе Богам дадзены своеасаблівы рэгулятар, ці компас маральнасці — **сумленне**, якое дапамагае рабіць дабро. Бяда наша, што часта заглушаем голас сумлення, не чуем яго. Таму так лёгка і ўдзельнічаем у справах, якія застаюцца на нас плямай ганьбы. Іншая гаворка, што сама сістэма правакуе наш удзел у «справах цемры». Для заходняга грамадства найменне «савецкі чалавек» гучыць жа як дыягназ. Можа, таму апошнім часам сусветныя хрысціянскія місіі пачалі наладжваць чыннасць у рэспубліках Савецкага Саюза.

(Працяг на стар. 14).

# «ЧАЛАВЕК СТВОРАНЫ НЕ ДЛЯ ПАМІРАННЯ...»

(Пачатак на стар. 13).

**РЭМАРКА. Вясной 1990 г. кіраўніцтва Мінскай ЦЕХБ заснавала ў Мінску кэмп (цэнтр) хрысціянскай місіі «Гедыён». За гэты час «гедыёнавы браты» распаўсюдзілі ў гатэлях, школах, ВНУ, вайсковых часцях, месцах зняволення каля 100 тысяч кніжак Новага Запавета. Баптысцкія святары выступілі таксама з ініцыятывай стварэння Біблейскага таварыства Беларусі, праз якое ў ліпені г. г. з Канады атрымана першая партыя Новых Запаветаў у перакладзе на беларускую мову — каля 20 тысяч экземпляраў. Кнігі ўжо з'явіліся ў царкоўных кіёсках.**

**— Здаецца, у нашым грамадстве больш пакутаў, чым разняволення чалавека. Сама палітыка, як пісаў нядаўна ў часопісе Маскоўскай Патрыярхіі п. Алексій II, зрабілася «опіумам для народа», закілзаўшы народны рух у агрэсіўныя мітынговыя баталіі. А пакуты, пакуты матэрыяльныя, не перапыняюцца...**

— Сэнс пакут — самае цяжкае пытанне для ўсіх пакаленняў, яму прысвечана шмат багаслоўскіх кніг. Людзі багамольныя часта абураюцца: маўляў, чаму мяне пры ўсёй праведнасці спасцігаюць няшчасці (хваробы блізкіх і да т. п.)? Трэба разумець, што перад выпрабаваннямі лёсу ўсе роўныя — і праведнікі, і грэшнікі. Сэнс выпрабаванняў — выхаванне моцы чалавечага духу, каб быць падрыхтаванымі да жыцця вечнага. І ведаеце,—я шчыра веру, што беларускі народ будзе памілаваны Богам... Наш народ ніколі не стаяў над кімсьці, нікога не катаваў; наадварот—мы ўсю гісторыю трывалі здзек і прыгнёт, таму наш народ больш хрысціянскі. Такі народ абавязкова будзе памілаваны.

**— Уладзімір Якаўлевіч, парайце, калі ласка, нашым чытачам, як правільна чытаць Біблію. Ці мае значэнне мова гэтай кнігі?**

— Вялікае значэнне мае мэта, з якой чалавек бярэ ў рукі гэтую «кнігу кнігаў». Адна справа — знаёміцца з ёй як з гістарычным ці літаратурным помнікам, іншая — шукаць адказаў на філасофскія пытанні быцця. Толькі пры апошняй умове Біблія адкрые свае запаветныя таямніцы, адкажа на ўсе глыбокія патрэбы душы. У такіх чытачоў пад уздзеяннем тэкстаў Бібліі прачынаецца дрэмлючае сумленне.

Для тых, хто хацеў бы дэталёва даследаваць Біблію, патрэбна вывучыць старажытнаяўрэйскую і старажытнагрэчаскую мовы і чытаць біблейскія тэксты ў арыгінале. Хрысціяне ўсіх канфесій Савецкага Саюза карыстаюцца на сёння рускім сінадальным перакладам, зробленым больш за 100 гадоў таму. Нягледзячы на час, гэта выдатны пераклад, які дасюль не страціў сваёй прыгажосці.

Натуральна, для беларусаў найлепей чытаць Біблію на роднай мове, але, на жаль, задавальняючага перакладу на беларускую мову пакуль што няма. Ды і мову мы падзабылі, асабліва дарослае насельніцтва ў гарадах. Новае пакаленне пачынае вывучаць мову ў школе, і, пэўна, яму спатрэбіцца Біблія на роднай мове. Спадзяёмся, што такі пераклад у хуткім часе з'явіцца.

**— І ў заключэнне—такое пытанне: што нас чакае ў будучым, у чым выйсце з цяперашняга духоўнага крызісу?**

— На апошняй старонцы Бібліі чытаем: «Вот иду скоро и возмездие моё со мною, чтобы воздать каждому по делам его» (Откр. 22, 12). Біблія гаворыць, што на змену новазапаветнаму перыяду прыйдзе абсалютна новая, блаславенная эпоха — Тысячагадовае Царства Ісуса Хрыста. Гэта будзе царства, дзе ўсе народы будуць з радасцю служыць Хрысту, пакланяцца адзінаму Богу, жыць у міры і згодзе: «Перекуют мечи свои на орала и копья свои на серпы; не поднимет народ на народ меча, и не будут более учиться воевать» (Ис. 2, 4). Усе прыкметы набліжаючагася часу бачныя: чытайце ўважліва Біблію. Ужо збыліся шмат якія біблейскія прароцтвы, збудзецца і прароцтва аб Другім Прышэсці Ісуса Хрыста і ўсталяванні яго царства на змучанай зямлі.

Канец новазапаветнай гісторыі добра апісаны ў «Откровении Иоанна Богослова» (Апакаліпсісе). Але пік атэістычнай цывілізацыі яшчэ наперадзе, наперадзе і цяжкія прыродныя катаклізмы. Толькі не трэба думаць, што зямля і народы загінуць ад атамнай, экалагічнай альбо іншай катастрофы: Бог гэтага не дапусціць. Народы яшчэ ўбачаць нашу планету квітнеючым раем, напоўненым прыгажосцю і лагодай, але шлях у яго пралягае праз пакаянне і зварот да Бога і веры.

**Юрась ЗАЛОСКА.**

---

**У 1944 годзе Сталін падарыў «народнай» Польшчы Беласток і Беласточчыну. Так у гады самадзяржаўя імператар дарыў сваім фаварытам вёскі і прыгонных сялян. Аддаючы гэтую зямлю Польшчы, Сталін выракаў беларусаў на здзек і пакуты.**

**Летась мы перадрукоўвалі з беластоцкай «Нівы» артыкул Яна Максімюка «Попел і памяць» («ЛіМ», 17 жніўня 1990 г.). У ім апавядалася пра злачынствы польскіх фашыстаў, пра генацыд беларусаў, які ажыццяўляла на Беласточчыне Армія Краёва. Але не лепш за АКаўцаў ставілася да беларусаў і дзяржаўная ўлада, і польскае насельніцтва «народнай» Польшчы...**

**Пра гэта — новая публікацыя Я. Максімюка з той жа беластоцкай «Нівы».**

# КАШМАР, АД ЯКОГА НЕ ПРАЧНУСЯ

Фронт прайшоў праз Беласточчыну летам 44-га, адкаціўся на захад. Па гарачых слядах Чырвонай Арміі прыйшла новая ўлада, прыйшлі на Беласточчыну АКаўцы... Не прыйшоў пажаданы спакой і мір. Лілася кроў, гарэлі вёскі ў жудасных 45-м, 46-м... Яшчэ нядаўна называлі той перыяд змаганнем за ўмацаванне народнай улады—часам класавай барацьбы. Загінуўшым у змаганні героям пераможнага боку паставілі помнікі, напісалі пра іх кніжкі, паназывалі іхнімі іменамі вуліцы, школы... Пасля 45 гадоў кола гісторыі закруцілася ў другі бок, і героямі сталі ворагі папярэдніх герояў, а час той назвалі змаганнем за вольную і непадлеглую Польшчу... Паявіліся новыя помнікі, кніжкі, імёны вуліц і школ...

Нехта сказаў: айчына там, дзе народ і магілы ягоных герояў. У 45-м і 46-м на Беласточчыне гарэлі беларускія вёскі, лілася беларуская кроў. Мой народ у тым змаганні не стаў ні пераможцам, ні пераможаным. Ён, што й казаць, не мае шанцаў займець герояў тае пары. Яму засталіся на памяць магілы ахвяраў у не-айчыннай зямлі.

Пра адну такую магілу апавядае гэты тэкст. Паслухайце.

**Васіль ЯКУБЮК:** Рок 46-ты, 18 красавіка банда прыйшла прабіць нашу вёску, Стацэвічы. Мой брат якраз быў выйшаў за дому, яго схапілі на вуліцы. Павязеш нас, кажуць. Брат кажа—не, моў, я вас не ведаю. І кінуўся ўцякаць. Засеклі яго з аўтаматаў на месцы. Яму ішоў пятнаццаты год. Мінуў тыдзень, і яны паявіліся надвячоркам зноў. Заходзіць адзін у хату. Кантынгент здадзены? пытае. Тады войска ездзіла па вёсках за кантынгентамі. Але я бачу: нейкі ён не той, не з таго войска. У кажушку, адзін пісталет за халяваю, другі за паскам. На што чакаеце? Выводзьце каня! Вывелі мы каня, татуль кажа: я павязу. Ну, стары, добра, кажа той. Мама кліча мяне: хадзі на вячэру. Іду я дахаты, але бачу на вуліцы—едуць, вязуць парсюкі, мяшкі, кучу іншага дабра на фурах. І двух нашых з вёскі паганяе, Плісюк Іван і Садоўскі Афанасій. Пераляканыя, самі не свае. Ага, думаю, такая справа. Толькі я паспеў увайсці дахаты, як убягае другі: Рукі ўгору! Бачу, знаёмы. Быў у міліцыі, потым пайшоў у банду, а з банды, скурвысына, забралі на службу да УБ. Альбін яго называлі, а напраўду — Адальф Нівінскі, з Нівіна Старога, тры вярсты ад Стацэвіч. Са «шляхты». Выводзь маладую кабылу, кажа мне. Ведаў, што маем. Я выйшаў, налажыў аборку і вывеў кабылу. Ён узяў павадок і кажа—вон, вам тут не месца, а ў Расіі. А матуля кажа: бацька, вазьмі дакументы. А татуль кажа: ужо дакументы аднаму душу вынялі, то й мне вымуць. Мне дакументы непатрэбны. А такі адзін сярун, з Філіп, з хутара, зайшоў у хату і пазбіраў тое, што папала пад руку — нагавіцы, гарнітур, палатно, і панёс на фурманку. Бацька выехаў і ўжо не вярнуўся...

Цяпер што? Таго самага року, канец кастрычніка, я быў у Бельску. Ажно спатыкае мяне адзін знаёмы і паказвае—глядзі, бандыт ідзе! Бачу—ён, Адальф Нівінскі. А з ім УБоўцы. Я падбягаю і крычу: ах ты такі-сякі бандыт, дзе майго бацьку паклаў? А УБоўцы мяне пад рукі і заводзяць да каменданта. Калі яшчэ раз гэтае паўторыцца, кажа іхні камендант, дастанеш пяць год, а калі яго хоць кранеш—табе пятнаццаць. Я й не стаў пытацца, дзе мой бацька ляжыць.

Аказваецца, Нівінскага УБ узяло пры нападзе на Яцэвічы, прыпомнілі сабе, што быў у міліцыі, і ўзялі на службу, як такога сабаку, што мае выстаўляць ім бандытаў. Потым ён служыў у Беластоку, на Юравецкай. Памёр прошлага року... Прайшло 45 гадоў, а я й не ведаў, дзе ляжыць мой бацька, Язэп Якубюк, у якой магіле.

**Сцяпан ПЛІСЮК:** Так, я быў дома, як бралі майго бацьку, Івана Плісюка. Мала што, а я й сам галавою налажыў бы. Бацька пайшоў запрагаць коні, а той бандыт застаўся ў хаце і давай перагрэсаць куфэркі, забірае адзенне. Я кажу: пане, пакінь мне хоць адны нагавіцы. А ён за пісталет. Я паспеў скочыць за дзверы і зачыніць за сабою—куля раструшчыла замок, але мяне не зачапіла, хоць я і думаў сабе ад страху: жывы я ці мёртвы? Ён панёс тое, што набраў, на фуру. Сястра мая кажа: уцякай, бо як вернецца, то табе хана. Я ўцёк цераз вакно і схаваўся ў суседа. Бацькі свайго я больш не бачыў...

**Вера САДОЎСКАЯ:** Свёкра майго, Афанасія Садоўскага, забралі разам з Якубюком і Плісюком. Нашы якраз вярнуліся з поля. Было гэта на Велікодным тыдні, у аўторак пасля Вербніцы. Яны пайшлі ў клуню рэзаць сечку. Я забачыла нейкае войска ў вёсцы і бягу да іх у клуню, кажу: хавайцеся, бо прыйшлі грабіць. Свёкар выпраг коні і паставіў у другую клуню, мой чалавек схаваўся ў прыстаранку. Але іх знайшлі. Я прашу, каб маладую кабылу пакінулі, бо жарабя ў яе малое, тры тыдні. Яны зараз зернуцца, казалі бандыты. Потым прыйшлі дахаты і бралі ўсё, што знайшлі: пабралі сукенкі, што я пашыла дзецям пад Вялікдзень, кажух, нават насенную канюшыну забралі. І яшчэ палатно, што ў нас пакінула суседка. Забралі парсюка, што мы закалолі, каўбасы, другога парсюка застрэлілі і таксама забралі. Збожжа за-

---

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Міфы застаюцца міфамі

Жаданне аўтара артыкула М. Цубы «Якой была вайна 1812 года для Беларусі» («ЛіМ» за 7 чэрвеня г.г.) па-новаму асвятліць падзеі вайны 1812 г. і яе значэнне для Беларусі, вядома ж, зразумелае — адысці ў разглядзе гэтага пытання ад стэрэатыпаў. Сёння, калі беларусы абуджаюцца ад летаргічнага сну, які быў насланы непрыхільнымі для існавання самастойнага беларускага этнасу сіламі, пераацэнка поглядаў на мінуўшчыну нам асабліва патрэбная, бо прыхільнікі адзінанепадзельнасці трох усходнеславянскіх этнасаў у сваіх пабудовах нам адводзяць месца малодшага брата з казкі «Канёк-Гарбунок». І трэба сказаць, калі меркаваць па шматлікіх публікацыях у друку, робяць гэта дасюль з незвычайным поспехам, бессаромнасцю і хітрасцю, ацэньваючы розныя справы мінулага не з пазіцыі беларусаў.

Перагляд такіх спроб надта патрэбны. Але які? Здаецца, толькі на аснове вывучэння гістарычных крыніц і супастаўлення поглядаў даследчыкаў розных часоў, розных этнасаў і розных напрамкаў. Ці зрабіў гэта М. Цуба?

На жаль, не. Пры чытанні артыкула адчуваецца звычная для савецкай гістарыяграфічнай традыцыі схематычнасць. Для яго аўтара існуюць толькі некалькі этнічных груповак насельніцтва; рускія чыноўнікі, яўрэі, польскае і паланізаванае насельніцтва і беларусы. Разумею, што М. Цубу не хочацца разглядаць класавы склад насельніцтва Края, але, у гэтым сэнсе, аднаго ў сваёй схеме ён усё ж такі не пазбег, вылучыўшы рускіх чыноўнікаў, як прадстаўнікоў пэўнай саслоўнай групоўкі. А як быць з паланізаваным насельніцтвам? Беларусы яны ці не?

Падводзіць М. Цубу жаданне этнічнага акрэслення дэлегацыі М. Агінскага да Аляксандра І. Ён не прыводзіць доказаў таго, што гэта была «беларуская» дэлегацыя. Яна была такой жа беларускай, як і літоўская, і складалася з магнатаў, якія наўрад ці ўяўлялі сабе, да якога этнасу адносяцца. Хутчэй за ўсё яны лічылі сябе палякамі, бо былі апалячанымі літоўцамі і беларусамі. Спробы жорстка акрэсліць этнічную прыналежнасць персанажаў мінулага натыкаюцца на розныя погляды на гэтую прыналежнасць у розныя часы. А тэрытарыяльная прыналежнасць па месцы нараджэння ці па нерухомай маёмасці асобных людзей нічога яшчэ не даказвае, бо, вядома ж, магнаты валодалі маёмасцю ў розных кутах Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, якое тады лічылася адным тэрытарыяльным цэласным. Падыходзіць да гэтага з пункту этнічных размежаванняў — тое ж самае, што разглядаць гісторыю Беларусі толькі ў межах сучаснай БССР, пакідаючы за яе межамі Беласточчыну, Віленшчыну, Дзвіншчыну і Смаленшчыну, толькі наадварот. Гэта значыць, для гісторыкаў Беларусі ўраўноўвацца ў поглядах з гісторыкамі БССР.

Характарыстыкі адносін пералічаных ім груповак насельніцтва да Напалеона ён дае са спасылкай толькі на адну крыніцу, ды і то на ананімную. Гэтыя характарыстыкі не адпавядаюць тым, якія далі ім папярэднікі М. Цубы па тэме А. Л. Пагодзін, М. Кукель, Я. Івашкевіч і інш. Бо, сапраўды, вядома ж, што беларускае дваранства падзялілася ў той час на два лагеры. Больш падтрымліваў Аляксандра І, бо яго прадстаўнікі

---

# БУДЗЕ НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЕЙ!

Згодна з пастановай Савета Міністраў БССР № 63 ад 22 лютага 1991 г. у рэспубліцы ствараецца Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. У сувязі з гэтым Міністэрствам культуры рэспублікі абвяшчаецца конкурс на лепшую эскіз-ідэю архітэктурна-мастацкага афармлення экспазіцыі будучага музея.

Умовы конкурсу:

— да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца члены творчых саюзаў, мастакоў, дызайнераў, архітэктараў;

— аўтары ці творчыя калектывы, якія прымаюць удзел у конкурсе, прадстаўляюць: мастацкія ці графічныя лісты эскіз-ідэі, тлумачальную запіску, звесткі аб асобе (асобах, калі ўдзельнічае творчы калектыў);

— для пераможцаў конкурсу вызначаюцца наступныя грашовыя прэміі: першая адна — 5 000 руб., другая адна — 3 000 руб., дзве трэція — па 2 000 руб., тры заахвочвальныя — па 1000 руб. кожная;

— тэрмін прадстаўлення работ на конкурс — да 15.01.92 года;

— конкурсныя праекты прымаюцца ў Дзяржаўным музеі БССР па адрасе: 220050, Мінск, вул. К. Маркса, 12 (тэл. для даведак: 27-36-65, 27-30-06);

— выстаўка конкурсных праектаў будзе арганізавана ў Дзяржаўным музеі БССР з 20.01 па 30.01.92 года;

— вынікі конкурсу будуць падведзены да 05.02.92 г. і абвешчаны праз сродкі масавай інфармацыі;

— тэрмін запатрабавання аўтарамі праектаў, якія не сталі пераможцамі, да 15.02.92 г.;

— конкурс праводзіцца ў адзін тур, пры неабходнасці другога тура будзе прынята спецыяльнае рашэнне журы, аб якім будзе паведамлена яго ўдзельнікам.

Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі будзе размешчаны ў будынках №№ 2,4,8,10 на плошчы Волі ў Мінску.

Дадатковыя звесткі, неабходныя для працы, можна атрымаць у Дзяржаўным музеі БССР на падставе распрацаванага калектывам «Навукова-канцэптуальнага задання на праектныя работы па рэстаўрацыі і прыстасаванні комплексу будынкаў на пл. Волі №№ 2,4,8,10 пад Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі». У заданні ёсць прыкладная тэматычная структура музея, асобныя патрабаванні па методыцы пабудовы экспазіцый (храналагічны, тэматычны, калекцыйны паказы); патрабаванні па размяшчэнні ўсіх асноўных службаў музея і г.д.

*Беларуская эміграцыя — адна з маладаследаваных і складаных тэм. Яна да апошняга часу альбо зусім замоўчвалася, альбо падавалася толькі ў негатыўным плане. У межах БССР дзяржаўныя бібліятэкі і архівы амаль не маюць ніякіх матэрыялаў па гэтых пытаннях, акрамя асобных публікацый у перыядычным друку за апошні час. Улічваючы гэта, аўтар артыкула не прэтэндуе на вычарпальнае даследаванне азначанай тэмы. Ён меў на мэце акрэсліць агульныя рысы, вызначыць магчымыя прычыны беларускай эміграцыі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, паказаць яе грамадска-культурную дзейнасць за мяжой.*

# Беларусы ў Амерыцы

**Эміграцыя заўжды была рэхам народу, праваднікам яго вольных думак і імкненняў у шырокі свет агульначалавечага яднання. Тое, чаго не мог сказаць і зрабіць народ у сябе дома ва ўмовах свaёй ці чужацкай улады і цэнзуры, эміграцыя ўпэўнена гаварыла, карыстаючыся свабодай слова за граніцай.**

З вывучэннем беларускага рассялення за мяжой склалася вельмі дзіўная сітуацыя. Ні ў Беларусі, ні ўвогуле ў Савецкім Саюзе ў цэлым ніхто гэтым не займаецца. Пакуль што такімі даследаваннямі, як гэта ні парадаксальна, займаюцца толькі беларускія арганізацыі... за мяжой. Найбольш буйным даследчым цэнтрам вывучэння дынамікі і рассялення беларусаў, іх этнаграфіі і лінгвістыкі з'яўляецца Беларускі цэнтр у Лондане. Пры гэтым цэнтры існуе даволі вялікая бібліятэка кніг на беларускай мове, а таксама выданняў, прысвечаных беларускаму пытанню наогул. Цэнтр рэгулярна выдае на англійскай мове збор навуковых артыкулаў пад назвай «Часопіс беларускіх даследаванняў». Акрамя таго, у Вялікабрытаніі ёсць Асацыяцыя беларусаў, Беларускі клуб у Манчэстэры, Англа-беларускі клуб «Сакавік» у Брэдфардзе. Яшчэ адным цэнтрам беларускіх даследчыкаў за межамі Бацькаўшчыны з'яўляецца Мюнхенскі цэнтр, які ўзнік у сувязі з існаваннем адзінай у Заходняй Германіі калоніі беларусаў у Мюнхене.

У Еўропе існуе таксама Беларускі інстытут культуры і навукі на Захадзе, які знаходзіцца ў Рыме і выдае часопіс «Факел», і беларуская спецыялізацыя факультэта славістыкі універсітэта ў Капенгагене.

Некаторыя даследчыкі лічаць, што асобныя беларускія эмігранты з'явіліся ў ЗША ў XVII стагоддзі. Значныя хвалі працоўнай эміграцыі з Беларусі, напрыклад, у Канаду пачаліся з 1817 года. Пасля паражэння паўстання 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў Паўночнай Амерыцы шукалі прытулку палітычныя эмігранты. Масавая ж беларуская эміграцыя за акіян пачалася на пачатку XX стагоддзя, прыблізна з 1905 і да канца 1913 года. Самая моцная хваля эміграцыі прыпадае на 1907 год. У пошуках працы і надзённага хлеба адпраўляліся ў Злучаныя Штаты, Канаду, Аргенціну, Бразілію, Парагвай, Уругвай, у суседнюю Польшчу велізарныя партыі ўдзельнікаў рэвалюцыйных выступленняў на Беларусі і беззямельных беларускіх беднякоў. Гэта была палітычная эміграцыя.

Шырокай і бурнай хваляй эмігрыравала сялянства з акупаванай польскімі панамі былой Заходняй Беларусі ў 1920-30-х гадах, бо яму нялёгка жылося пад польскім прыгнётам. Наступная хваля беларускіх эмігрантаў у Амерыку прыпадае на гады другой сусветнай вайны.

І ўсё ж беларуская эміграцыя ў ЗША — нешматлікая, да таго ж досыць расцярушаная. Паводле падлікаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, у ЗША пасяліліся ад 550 да 650 тысяч беларускіх эмігрантаў.

Рассяляліся ў Амерыцы беларускія эмігранты амаль ва ўсіх штатах, аднак найбольш на ўсходнім узбярэжжы, у гарадах Нью-Ёрк, Бостан, Філадэльфія, Балтымор ды ў штатах Нью-Джэрсі, Канектыкут, Нью-Ёрк, Пенсільванія. На сярэднім захадзе — у штатах Агайо, Ілінойс, Індыяна і Мічыган, а на заходнім узбярэжжы — у штаце Каліфорнія.

«Апошнімі гадамі эмігранцкі беларускі рух у Амерыку пачаў вельмі шпарка разрастацца,— падкрэслівала рэдакцыя газеты «Наша Ніва» ад 8 (21) сакавіка 1912 года.— На нашу думку, выезд у Амерыку на кароткі час, на тое толькі, каб там зарабіўшы грошы вярнуцца назад, справа карысная. А карысна гэта таму, што беларускі селянін, пабываўшы ў Амерыцы, вяртаўся дамоў не толькі багацейшым, але і святлейшым».

Эканамічная эміграцыя шпарка павялічвалася.

«Ад нас выязджае шмат рабочай людской сілы ў Злучаныя Штаты Паўночнай Амерыкі, дзе заработак у 5—10 разоў большы ад нашага. Там нашы беларусы, якія не прывыклі да раскошнага жыцця, за 2—3 гады ўжо складаюць капітал і варочаюцца да сваіх родных вёсак з амерыканскімі грашыма. Можна сказаць, што найменш тры чвэрці нашых мужыцкіх капіталаў — гэта з Амерыкі»,— падкрэслівала ў артыкуле «Эміграцыя ў Амерыку» рэдакцыя «Нашай Нівы» (20 студзеня 1911 г.).

«Колькі грошай штогод прыходзіць з Амерыкі да нас? Беларусь разам з Ковенскай губерняй дастае грошай поштай на 20 мільёнаў рублёў больш як выслана (1909 г.). Адна Віленская губерня дастала свежых грошай 5 з палавінай мільёнаў рублёў. Значная частка гэтых грошай будзе з Амерыкі. Так, напрыклад, праз адзін банк у Слуцку перасылаюць у год каля 150 000 рублёў. У горад Радашковічы ў 1910 годзе прыйшло поштай з Амерыкі 29 000 рублёў, а ляжыць у Радашковічах у ашчаднай касе пры пошце 50 000 рублёў. У тыя ж Радашковічы прыходзіць шмат грошай яшчэ праз Лібаўскія канторы і банкі, мінуючы пошту». (Там жа). Вось якія фінансавыя пералічэнні з ЗША мелі ашчадныя касы беларускіх гарадоў у той час.

Як бачым, справа выезду беларусаў у Амерыку мела вялізнае значэнне для эканамічнага жыцця нашага краю. Бяда толькі ў тым, што амерыканскія грошы не маглі зрабіць таго, каб і ў нашым краі завяліся фабрыкі, заводы, каб гэтак жа паднялася сельская гаспадарка.

Але шмат хто з эмігрантаў набыў высокую кваліфікацыю, навучыўся і прывык працаваць на фабрыках і канцэрнах амерыканскага размаху і кінуў думаць аб сваёй зруйнаванай сялібе, застаючыся настала ў Амерыцы.

Хто яны, амерыканскія беларусы? Калі і які лёс закінуў іх у Амерыку? Галоўным чынам — гэта эмігранты перадваеннага, ваеннага (1941—1945 гг.) і пасляваеннага часу. Многія ў першы перыяд другой сусветнай вайны, у асноўным з Заходняй Беларусі, былі мабілізаваны ў польскую армію, а пасля паражэння Польшчы рассыпаліся па свеце. Затым, з фарміраваннем арміі Андэрса, служылі ў яе радах, ваявалі з гітлераўцамі ў Італіі. Былі і такія, хто, ашуканыя абяцанкамі аб адраджэнні Беларусі, утварэнні незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), уступалі ў ваенныя фарміраванні нацыянальнай арміі. Адны гэта зрабілі пад уздзеяннем патрыятычных пачуццяў, другія — ад нянавісці да сталінскага рэжыму, які «падарыў» народу жахлівыя рэпрэсіі.

Найбольшы лік беларусаў жыве ў Паўночна-Амерыканскіх Злучаных Штатах, дзе яны пераважна працуюць на фабрыках і заводах. Другая значная лічба беларусаў жыве ў Канадзе. Цэнтрам грамадска-культурнай думкі з'яўляецца Беларускі канадска-культурны саюз у Таронта, існуе Асацыяцыя канадскіх славістаў.

Увогуле першыя беларускія нацыянальныя арганізацыі ў ЗША заснаваны ў 1920-х гадах у Нью-Ёрку, Чыкага і ў штаце Нью-Джэрсі. Перасяленцы з Бацькаўшчыны да 1921 года зусім не былі ў Амерыцы арганізаваны, але ў наступныя чатыры гады яны здолелі аб'яднацца. З таго часу найболей арганізавана і энергічна працаваў Беларускі Нацыянальны Камітэт штата Ілінойс, які меў у Чыкага вялікую калонію і здольных грамадскіх дзеячаў. У гэтым горадзе часта рабіліся вечарыны, канцэрты, выступленні літаратараў Язэпа Варонкі і Яна Чарапука.

У другую сусветную вайну, калі да замарскіх берагоў дайшла новая хваля беларускіх эмігрантаў, у ЗША з'явіліся новыя беларускія арганізацыі. Аднавілася беларуская дзейнасць у штатах Нью-Ёрк, Нью-Джэрсі, Пенсільванія, Канектыкут, Масачусэтс, Агайо, Індыяна, Ілінойс, Каліфорнія і ў гарадах Нью-Ёрку, Нью-Браўнсвіку, Саут-Рыверы, Джэрсі-Сіці, Пасэйку, Дэтройце, Чыкага, Кліўлендзе, Лос-Анджэлесе, а таксама ў сталіцы ЗША Вашынгтоне.

Цяпер жа беларускіх арганізацый у ЗША некалькі. Найбольшыя з іх — Беларуска-амерыканскае аб'яднанне, Беларускі кангрэсавы камітэт (БКК) і Арганізацыя беларуска-амерыканскай моладзі (АБАМ).

Беларусаў у Амерыцы аб'яднала любоў да краю, роднай мовы, да праваслаўнай царквы — духоўнага цэнтра і месца сустрэч у дні рэлігійных і нацыянальных свят. Пры цэрквах утвораны клубы з канцэртнымі заламі, барамі, рознымі гульнямі. Найболей актыўныя абшчыны заснаваны ў Кліўлендзе, Нью-Ёрку, Чыкага і ў іншых штатах Амерыкі. Дзейнічаюць шматлікія беларускія праваслаўныя цэрквы ў Дораці, Дэтройце, Кліўлендзе, Нью-Браўнсвіку, Нью-Ёрку, Чыкага, якія адносяцца да юрысдыкцыі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Існуючы ў сучасны момант у Саут-Рыверы і Чыкага беларускія праваслаўныя прыходы належаць да юрысдыкцыі Грэчаскага Патрыярха ў Амерыцы. У Чыкага, акрамя праваслаўнай царквы, дзейнічае і беларускі каталіцкі прыход усходняга абраду.

31 ліпеня 1989 года споўнілася 40 гадоў ад дня заснавання найбольш масавай беларускай арганізацыі ў Злучаных Штатах Амерыкі — Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА). БАЗА заснавана са статутам, што з самага пачатку прадугледжваў стварэнне філіялаў па ўсёй Амерыцы. З часам аддзелы БАЗА паўсталі па-за Нью-Ёркам, у штатах Нью-Джэрсі, Агайо, Канектыкуце, Мічыгане, Ілінойсе, Каліфорніі.

У першым паведамленні аб заснаванні арганізацыі, напісаным доктарам Янкам Станкевічам, мэтай БАЗА ставілася: «памагаць перасяленню ў Амерыку беларускіх высяленцаў з Нямеччыны і Аўстрыі, арганізаваць беларусаў, рупіцца, каб яны захавалі сваю культурную спадчыну, памагаць беларускім эмігрантам у адзінюткіх гаспадарствах без розніцы веры і палітычных поглядаў, ды памагаць па магчымасці беларускай эміграцыі, падтрымліваць беларускі народ у яго змаганні да вызвалення ды інфармаваць свет пра вызвольныя і культурныя імкненні ягоныя, рээстраваць беларускіх эмігрантаў, пашыраць сярод беларусаў нацыянальную свядомасць, ідэі хрысціянскай маральнасці, брацтва, дэмакратыі ды прынцыпы рэлігійнай талеранцыі» («Беларус», 1989, № 361).

На ўсім сваім гістарычным шляху БАЗА дапамагала і дапамагае стварэнню іншых беларуска-амерыканскіх арганізацый. Гэтак, Задзіночанне брала ўдзел у арганізацыі Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва, заснаванні беларускіх царкоўных прыходаў, Арганізацыі Беларуска-Амерыканскай Моладзі, жаночага згуртавання ды іншых. Ад самага пачатку БАЗА актыўна дапамагае суродзічам у справах эміграцыі ў Амерыку, у розных адміністрацыйных справах. Яна была першай беларускай арганізацыяй, што дамагалася, каб у Кангрэсе ЗША ўшаноўвалася 25 сакавіка — Дзень Беларускай Незалежнасці, чыталіся малітвы за Беларусь. Штатныя аддзелы і прадстаўніцтвы БАЗА робяць штогод старанні, каб губернатары штатаў абвяшчалі 25 сакавіка Днём Беларускай Незалежнасці. Пачалося гэта ў 1955 годзе і трываецца дагэтуль.

Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне было таксама адным з пачынальнікаў штодвухгадовых сустрэч беларусаў Паўночнай Амерыкі і першай беларускай арганізацыяй, што пачала засноўваць беларускія суботне-нядзельныя школы. БАЗА вядзе шырокую і мэтанакіраваную прапаганду беларускай культуры сярод амерыканскага грамадства, выдала каля 10 брашур пра Беларусь на англійскай мове, арганізавала за мінулыя 40 гадоў сотні культурных мерапрыемстваў: шматлікія лекцыі, выстаўкі, канцэрты, фестывалі і г. д. Арганізацыя брала актыўны ўдзел у шмат якіх палітычных акцыях, дамагалася вызвалення беларускіх вязняў сумлення ў Савецкім Саюзе. Асаблівым яе клопатам сталі вынікі чарнобыльскага выбуху.

Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне супрацоўнічае з іншымі нацыянальнымі арганізацыямі, інфармуе іх аб становішчы ў Беларусі. Адно з найбольш грунтоўных дасягненняў БАЗА — гэта газета «Беларус», якая пачала выходзіць у 1950 годзе і пашыраецца па ўсім свеце, у тым ліку сярод беларусаў Савецкага Саюза. Яе рэдактарам і супрацоўнікам Задзіночання з'яўляецца Янка Запруднік.

Сёння, калі абставіны даюць беларусам Амерыкі магчымасць наладжваць больш шырокія сувязі з суродзічамі на Бацькаўшчыне, нельга перабольшыць значэнне Беларуска-Амерыканскага Задзіночання для нацыянальнага адраджэння беларускага народа ды справы гуманітарнае дапамогі суродзічам у Беларусі — прыкладам, пацярпеўшым ад чарнобыльскай аварыі.

●

Апошнім часам пачынаюць ладзіцца сувязі з нашай эміграцыяй. Дзякуючы намаганням доктара філалагічных навук А. Мальдзіса, навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны распачаў стварэнне банка дадзеных па беларускай эміграцыі. Але, трэба меркаваць, тэма эміграцыі — некрануты цалік для нашых даследчыкаў, і мае нататкі — толькі самы агульны падыход да яго. Патрабуюцца дэталёвыя распрацоўкі.

**Валянцін ГАЛУБОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётр ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04, аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12